



# Рэгіянальная газета. Rh.by

rg_rhby
rh_by

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета».

12 сакавіка 2021 года №11 (1350)

18+


# «Гэта варожы падыход». Пад Гальшанамі збіраюцца зруйнаваць стогадовы свіран

старонка 2

Работнікі раённай жыллёва-камунальнай гаспадаркі разбіраюць будынак – дом з вёскі Дзертнікі на сядзібе Алеся Варыкіша. За ім размешчаны свіран пачатку 20 стагоддзя з фальварка з вёскі Гарэцкаўшчына, які гаспадар хоча ўратаваць.

Фота Настассі УТКІНАЙ.

Што пісалі пра наш рэгіён больш за сто год таму

старонка 17

У Вілейцы кантэйнераў для збору пратэрмінаваных лекаў стане больш

старонка 3

У Маладзечне адкрылі выставу, прысвечаную Ядвізе Раздзялоўскай і мастакам маладзечанскага краю

старонка 18

Што не так з вясновым паляваннем

старонка 20

ISSN 1991–7155




Адсканіруйце QR-код, каб перайсці на наш сайт rh.by



# «Гэта варожы падыход». Пад Гальшанамі збіраюцца знесці стогадовы свіран

АШМЯНЫ

**9 сакавіка работнікі раённай жыллёва-камунальнай гаспадаркі пачалі разбіраць драўляны будынак з прыватнай тэрыторыі. Уладальнік імкнецца захаваць пабудовы як помнікі драўлянай архітэктуры пачатку 20 стагоддзя.**



Фота Настассі УЛІНАЙ.

Свіран пачатку 20 стагоддзя з фальварка з вёскі Гарэцькаўшчына.

Гаспадаром сядзібы ў Родзевічах, што ў некалькіх кіламетрах ад Гальшанаў, з'яўляецца дырэктар фонду «Краіна замкаў» **Алесь Варыкіш**. Гэту сядзібу ён набыў у нашчадка шляхетнага роду Ракіцкага. Акрамя гаспадарскага дома, на тэрыторыі размешчаныя гаспадарчыя пабудовы, традыцыйныя для беларускага побыту. Гэту сядзібу гаспадар выкарыстоўвае ў экскурсійных маршрутах, калі прывозіць у Ашмянскі раён турыстаў з усёй краіны.

Каля шасці год таму Варыкіш набыў свіран пачатку 20 стагоддзя з фальварка з суседняй вёскі Гарэцькаўшчына. Яго прадалі як дровы. Свіран перавезлі, паставілі на падмурак на тэрыторыі сядзібы. Таксама купілі дом у вёсцы Дзертнікі, які хацелі разбурыць. Дом перакупілі і перавезлі ў Родзевічы.

Гэтыя пабудовы неабходныя гаспадару для развіцця турыстычнага бізнесу і захавання спадчыны. Варыкіш плануе стварыць музей драўлянай архітэктуры:

– Ужо ёсць арыгінальны шляхецкі дом 1918 года, на падворку і іншыя традыцыйныя пабудовы. А гэтыя два будынкі паставілі для ўзмацнення.

### Чаму зносяць будынак

Летам фонд «Краіна замкаў» правяралі супрацоўнікі дзяржкантроля. Восенню на сядзібу Варыкіша накіравалі шэраг праверак.

– Сем службаў да мяне прыехала, – расказвае гаспадар. – Архітэктура аказалася самая дачэпістая – на тэрыторыі заўважылі два самабуды. З гэтай справай яны мяне валтузілі ад кастрычніка.

Гальшанскі сельвыканкам прыняў рашэнне, каб Варыкіш знёс самавольныя пабудовы – капітальныя будынкі, размешчаныя на зямельных участках, пастаўленыя без дазволаў на будаўніцтва. Калі ж гаспадар не выканае распараджэнне, то знос арганізуе сельвыканкам і будзе спаганяць выдаткі з гаспадара.

Самабудамі аказаліся якраз дом з вёскі Дзертнікі і свіран з Гарэцькаўшчыны. 9 сакавіка дом пачалі разбіраць.

Гаспадар разабраў падмурак з-пад свірана і пастабіў аб'ект на брусы.

– Атрымліваецца, што гэта ўжо не капітальны будынак, – расказвае гаспадар. – У рашэнні няма пераліку пабудоў. Так што прычапіцца да свірна цяпер не маюць права.

Мы папрасілі пракаментаваць сітуацыю кіраўніка спраў Гальшанскага сельвыканкама **Жанну Садоўскую**. Яна расказала, што працы вядуць пакуль толькі на першым аб'екце. Ці будуць зносіць свіран, які цяпер не з'яўляецца капітальным будынкам, неабходна ўдакладніць у аддзеле архітэктуры. Атрымаць каментар аддзела архітэктуры на момант публікацыі ў нас не атрымалася.

### Чаму гэты свіран важны

Гаспадар абскарджваў рашэнне сельвыканкама:

– Напісаў хадайніцтва, што прашу прыпыніць рашэнне, пакуль не будзе рашэння аблвыканкама. Але даліся ім мае абскарджанні, прыехалі і дзяруць ужо страху.

Варыкіш звярнуўся да старшыні Ашмянскага райвыканкама **Уладзіслава Гершгорына,** які сказаў, што як выканаўчая ўлада выконвае заканадаўства Рэспублікі Беларусь. У лютым быў на прыёме ў міністра культуры **Анатоля Маркевіча**. Па словах Варыкіша, міністр падтрымаў ідэю міні-скансэна (музея пад адкрытым небам) і парку мініяцюр. А таксама здзівіўся, што пытанне з аб'ектамі не атрымліваецца вырашыць на месцы.

Ахоўнага статусу помніка архітэктуры аб'ект не мае. Але гэтыя будынкі з'яўляюцца аўтэнтычнымі ўзорамі мясцовых гаспадарчых пабудоў.

Вось як ацэньвае будынкі архітэктар **Аляксандр Базевіч**, ганаровы грамадзянін Смаргоні і адзін з праекціроўшчыкаў комплексу «Дудуткі»:

– Будынкам сто з лішнім гадоў. Мы займаліся Дудуткамі – цяпер іх усе ведаюць. І тут чалавек стараецца, у сваім маштабе. А калі рукі ў яго апусцяцца – усё гэта знікне. Гальшаны – замак, касцёл, кляштар. Такі патэнцыял!



Дырэктар фонду «Краіна замкаў» і гаспадар сядзібы ў Родзевічах Алесь Варыкіш.

Гэта не першы выпадак, калі Варыкіш спрабуе ўратаваць мясцовыя традыцыйныя гаспадарчыя пабудовы. У 2018 годзе збіраліся разбіраць аварыйны млын, што быў на балансе калгаса, у некалькіх кіламетрах ад Родзевічаў. Варыкіш набыў аб'ект як дровы і склаў пакуль іх на сваім участку – да часоў, калі можна будзе яго спакойна размясціць.

### Як уплывае на турызм

Аляксандр Варыкіш расказаў, што за гады яго працы як туратара на Ашмяншчыну прыязджалі тысячы турыстаў.

Гаспадар сядзібы адзначыў, што разам з калегамі нямала зрабіў для развіцця мясцовасці як турыстычнай пляцоўкі. Пачысцілі яўрэйскія могілкі ў Гальшанах і абгарадзілі. Пачысцілі нямецкую турму Першай сусветнай вайны – адзіная такая ў Беларусі захавалася ў суседняй вёсцы Гарэцькаўшчына. Знайшлі інвестара на ўладкаванне маёнтка 1826 года ў вёсцы Бенюны. Яго таксама збіраліся пусціць на дровы, цяпер гаспадар зрабіў там рамонт.

– Лічу, што для раёна я зрабіў шмат, – падсумоўвае Варыкіш. – І тое, што ўлада так паставілася, складана каментаваць. Замест таго, каб супрацоўнічаць са мной і наладжваць турызм у Ашмянскім раёне, улады займаюцца такім. Тут жа такое месца, Гальшаны побач – толькі працуй! З такім падыходам у Ашмянскім раёне не будзе турыстычнага ўзлёту. Гэта не дзелавы падыход, а варожы.



Зоя ХРУЦКАЯ
regionnews@rh.by
(8-033) 66-719-77




Фота забяспечанае Ларысай ЯКАВЮК.

Новы кантэйнер для пратэрмінаваных лекаў нядаўна з'явіўся ў будынку вілейскага аўтавакзала, побач з аптэкай.

# Кантэйнераў для збору пратэрмінаваных лекаў стане больш

## Яны прыедуць у Вілейку з Баранавічаў

**Такія кантэйнеры ўжо стаяць у аптэцы па вуліцы 1 Мая і на аўтавакзале ў Вілейцы. Магчыма, хутка іх у горадзе стане больш.**

ВІЛЕЙКА

– У Вілейскім райвыканкаме прызначылі тры пункты для размяшчэння кантэйнераў. Першы – магазін №10, што насупраць Палаца культуры. Другі – у «Дабраноме» ў мікраёне Паўночны. І трэці – у аптэцы №219, што на вуліцы Гагарына, – расказала карэспандэнту актывістка грамадскага аб'яднання «Жывое партнёрства» віляйчанка **Ларыса Якавюк**.

Па яе словах, пытанне можа вырашыцца ў бліжэйшыя некалькі тыдняў. Пакуль ідзе падрыхтоўка – афармленне папер. Рыхтуюцца Пагадненне аб супрацоўніцтве і акты перадачы. Кантэйнеры і інфармацыйныя матэрыялы пра неабходнасць правільнага збору і ўтылізацыі лекаў прывязуць з Баранавічаў. Арганізатар працэсу – баранавіцкая ўстанова «Цэнтр экалагічнага і сацыяльнага развіцця».

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Адкрылі шматфункцыянальны культурны комплекс

АСТРАВЕЦ

**Новы будынак шматфункцыянальнага сацыяльна-культурнага комплексу адкрылі 5 сакавіка ў Астраўцы за кошт дзяржаўнай інвестыцыйнай праграмы.**

Плошча новага будынка – каля дзесяці тысяч квадратных метраў. Тут размясціліся адразу некалькі ўстаноў культуры.

– Знакавы аб'ект, які аб'яднаў пад адным дахам розныя напрамкі – творчасць, гістарычную спадчыну, актыўны адпачынак і забавы. Упэўнены, што комплекс стане цэнтрам прыцягнення для жыхароў Астраўца, ён будзе аб'ядноўваць людзей розных узростаў, захапленняў, інтарэсаў, забяспечваць пераемнасць і сувязь пакаленняў, – адзначыў падчас цырымоніі адкрыцця новага аб'екта старшыня Гродзенскага аблвыканкама **Уладзімір Каранік**.

У новым комплексе свае плошчы атрымаў раённы гісторыка-этнаграфічны музей, які раней меў толькі фондасховішча. Цяпер на першым паверсе цэнтра размесцяць экспазіцыю, прысвечаную Астравеччыне. У падарунак на наваселле музею ад аблвыканкама ўручылі сертыфікат на неабходнае абсталяванне.

На другі паверх цэнтра пераехала раённая бібліятэка. Да наваселля цалкам абнавілі тэхнічнае абсталяванне бібліятэкі, рэгулярна папаўняюць і кніжны фонд, які цяпер складае каля 40 тысяч асобнікаў.

**Трэці паверх будынка заняў раённы цэнтр культуры.**

Па словах загадчыка сектара культуры Астравецкага райвыканкама **Інгі Купрэвіч**, тут створаныя камфортныя ўмовы для працы гурткоў, рамеснікаў, творчай рэалізацыі жыхароў Астраўца. З'явілася шматфункцыянальная зала, якая можа трансфармавацца пад розныя мерапрыемствы – ад модных паказаў да канцэртаў і танцавальных вечароў.

Таксама ў будынку адкрыўся кафетэрый. Працуе 3D-кіназала на 30 месцаў. На цокальным паверсе – сучасная трэнажорная зала. У перспектыве тут можна будзе пагуляць і ў боўлінг.

Тут жа цяпер месціцца Астравецкае бюро Ашмянскага філіяла РУП «Гродзенскае агенцтва па дзяржаўнай рэгістрацыі і зямельным кадастры».

**Паводле БелТА.**

**ЛІЧБА НУМАРА**

**48** мільёнаў

столькі птушак было ў гаспадарках Беларусі на студзень 2021 года.

**Паводле Белстата.**

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 4.03 | 11.03 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 2.6073 | 2.6048 |
| Еўра | 3.1529 | 3.0957 |
| Злоты, 10 | 6.9527 | 6.7799 |
| Расійскі рубель, 100 | 3.5453 | 3.5198 |
| Грыўня, 100 | 9.3788 | 9.4006 |
| Курсы ў «Банку БелВЭБ» | 3.03 | 10.03 |
| Еўра | 3.1100/3.2100 | 3.0600/3.1600 |
| Долар ЗША | 2.5700/2.6500 | 2.5600/2.6400 |

| ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна) | | |
|---|---|---|
| ПРАДУКТЫ | 3.03 | 10.03 |
| | Цана, руб. | |
| Кілбаса «Мядовая», 1 кг | 20,71 | 22,57 |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 3,50 | 3,50 |
| Сасіскі, 1 кг | 7,40 | 7,76 |
| Свініна (выразка), 1 кг | 9,00 | 9,00 |
| Карп жывы, 1 кг | 4,90 | 4,90 |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 4,40 | 4,40 |
| Селядзец, 1 кг | 6,20 | 6,20 |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 18,80 | 18,80 |
| Грэчка, 0,8 кг | 2,15 | 2,15 |
| Рыс, 0,8 кг | 2,40 | 2,40 |
| Алей, 1 л | 3,90 | 3,90 |
| Кава «Nescafe», 100 г | 4,80 | 4,80 |
| Маянэз, 400 г | 2,20 | 2,20 |
| Соус «Мінскі», 0,5 л | 1,70 | 1,70 |
| Шпроты, бляшанка, 160 г | 2,00 | 2,00 |
| Яйкі курыныя, 1 дз. | 2,40 | 2,40 |
| Агуркі, 1 кг | 5,50 | 5,20 |
| Баклажаны, 1 кг | 6,90 | 7,90 |
| Бульба, 1 кг | 1,00 | 1,00 |
| Буракі, 1 кг | 1,00 | 1,00 |
| Капуста, 1 кг | 0,75 | 0,70 |
| Капуста пекінская, 1 кг | 2,50 | 2,50 |
| Морква, 1 кг | 1,20 | 1,20 |
| Памідоры, 1 кг | 4,50 | 4,50 |
| Перац, 1 кг | 8,50 | 7,90 |
| Салата, пучок | 0,70 | 0,70 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 1,20 | 1,20 |
| Часнок, 1 кг | 6,90 | 6,90 |
| Шампіньёны, 1 кг | 6,50 | 6,50 |
| Апельсіны, 1 кг | 4,50 | 4,50 |
| Бананы, 1 кг | 4,20 | 3,90 |
| Вінаград, 1 кг | 3,90 | 4,50 |
| Гранат, 1 кг | 6,50 | 6,50 |
| Грушы, 1 кг | 3,90 | 3,50 |
| Ківі, 1 кг | 4,50 | 4,50 |
| Лімон, 1 кг | 4,50 | 4,50 |
| Мандарыны, 1 кг | 4,50 | 4,50 |
| Хурма, 1 кг | 4,90 | 4,90 |
| Яблыкі, 1 кг | 2,30 | 2,20 |
| СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ | | |
| Малако, 1,5 л | 1,70 | 1,70 |
| Масла, 1 кг | 18,00 | 18,00 |
| Сала, 1 кг | 13,00 | 13,00 |
| Сыр, 1 кг | 14,00 | 14,00 |
| Тварог, 1 кг | 8,00 | 8,00 |
| Яйкі, 1 дзясятак | 4,00 | 4,00 |

# У Валожыне новы пракурор

ВАЛОЖЫН

**Ад 1 сакавіка ў Валожынскім раёне новы пракурор Аляксандр Ляўковіч.**


Фота psl.by.

Ляўковіч нарадзіўся ў 1989 годзе. У 2012-м скончыў юрыдычны факультэт БДУ.

Да прызначэння ў Валожын працаваў памочнікам пракурора Маладзечанскага раёна, памочнікам пракурора Мінскага раёна, а затым у апараце Мінскай абласной пракуратуры.

У 2018 годзе яго прызначылі намеснікам пракурора Лагойскага раёна, дзе ён працаваў да пасады пракурора Валожынскага раёна.

У студзені 2021 года Ляўковіч быў дзяржаўным абвінаваўцам па справе паплечніка **Сяргея Ціханоўскага Уладзіміра Няронскага**. Няронскага абвінавачвалі па двух артыкулах Крымінальнага кодэкса: за арганізацыю дзеянняў, якія груба парушаюць грамадскі парадак, і за абразу службовай асобы. Ляўковіч запрасіў для Няронскага тры гады калоніі агульнага рэжыму – суд прызначыў гэта пакаранне.

**Паводле psl.by.**

# Праз «Каменны Лог» прадпрымальнік спрабаваў незаконна ўвезці аўтазапчасткі

АШМЯНЫ

На мінулым тыдні індывідуальны прадпрымальнік, зарэгістраваны ў Мінскай вобласці, не задэклараваў партыю аўтазапчастак коштам больш за 23 тысячы рублёў. Тавар ён спрабаваў перавезці цераз беларуска-літоўскую мяжу. Падрабязнасці распавялі ў Дзяржаўным мытным камітэце. Здарэнне адбылося ў пункце пропуску «Каменны Лог».

Падчас сканавання грузавога адсека машыны ўстанавілі, што, акрамя заяўленых у суправаджальных дакументах каталогаў, беларус перамяшчае больш за дзве тысячы запчастак і прылад для грузавых аўтамабільных прычэпаў.

Гродзенскай рэгіянальнай мытняй па факце недэкларавання тавару распачаты адміністрацыйны працэс. Санкцыя артыкула прадугледжвае для ІП накладанне штрафу ў памеры да трыццаці працэнтаў ад кошту запчастак.

**Паводле customs.gov.by.**

# Знайшлі зніклую маладзечанку. Яна была ў гасцях

МАЛАДЗЕЧНА

Зніклую ў лютым маладзечанку **Інгу Л.** 4 сакавіка міліцыя знайшла ў знаёмых. Пра гэта паведаміў каардынатар пошукава-выратавальнага атрада «Анёл» **Максім Федаровіч**.

Жыццю і здароўю жанчыны нічога не пагражае. Нагадаем, што маладзечанка Інга Л. сышла з дому 19 лютага ў невядомым кірунку. Да 4 сакавіка месца яе знаходжання было невядомым.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

# Хлопчык перабягаў дарогу на чырвонае і трапіў пад машыну

АСТРАВЕЦ

У Астраўцы дзіця перабягала дарогу на чырвонае святло і трапіла пад машыну, паведамілі ва ўпраўленні ДАІ УУС Гродзенскага аблвыканкама.

Аварыя адбылася днём 3 сакавіка на скрыжаванні праспекта Энергетыкаў і вуліцы Валадарскага ў райцэнтры.

На рэгуляваным пешаходным пераходзе легкавушка «Аўдзі», якой кіравала 37-гадовая жанчына, наехала на дзіця.

– 11-гадовы хлопчык перабягаў дарогу на забараняльны сігнал святлафора і стукнуўся ў заднія правыя дзверы аўто, – распавялі ў ДАІ.

Пасля аварыі пешахода з пераломам шпіталізавалі. Прызначаная праверка. ДАІ нагадвае бацькам перыядычна гаварыць дзецям, як трэба паводзіць сябе на дарозе.

**БелТА.**


Фота забяспечана Дыянай ГАЛУЗАЙ.

На месцы здарэння.

# Аўтамабіль наехаў на слуп

## Пасажырка ў бальніцы

**7 сакавіка каля трох гадзін дня на 15 кіламетры дарогі Плябань-Дубрава, каля вёскі Дубрава, 50-гадовы мінчанін на аўтамабілі «Рэно-Лагуна» заехаў у апору ЛЭП. Пацярпела пасажырка аўто.**

МАЛАДЗЕЧНА

Падрабязнасці аварыі расказала інспектар па адміністрацыйнай практыцы **Дыяна Галуза**.

– 50-гадовы мінчанін ехаў ад вёскі Плябань у кірунку вёскі Дубрава.

> На закругленні дарогі ўправа кіроўца не ўлічыў умоў надвор'я, машыну занесла.

Ён з'ехаў на левую па ходу руху ўзбочыну. Тут наехаў на апору ЛЭП. У выніку 28-гадовая пасажырка атрымала цялесныя пашкоджанні. Яна ў бальніцы. Матэрыялы – на праверцы ў ДАІ, расказала інспектар.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

# Гарэла кватэра ў шматпавярхоўцы. Гаспадыня памерла ў бальніцы

ВІЛЕЙКА

Пра пажар вілейскім выратавальнікам паведамілі 6 сакавіка каля 11 гадзін вечара.

Гарэла кватэра на першым паверсе пяціпавярхоўкі, што па вуліцы 1 Мая, 39.

Падчас пажару атрымала апёкі 51-гадовая гаспадыня кватэры. Яе забралі ў бальніцу. Як стала вядома пазней, 9 сакавіка, ноччу, пацярпелая памерла ад атрыманых апёкаў. Прычыну пажару высвятляюць.

**Паводле МНС.**

# Абакралі «Табакерку». Вынеслі выручку і цыгарэты

ВІЛЕЙКА

Пра гэта расказаў намеснік начальніка Вілейскага РАУС **Мікалай Мягкоў**.

Раніцай 8 сакавіка ў вілейскую міліцыю патэлефанаваў прадавец кіёска, які прыйшоў на працу. Паведаміў, што ў кіёск нехта залазіў.

Следча-аператыўная група, якая прыехала на месца, устанавіла: у перыяд ад 18:45 7 сакавіка да 7:20 8 сакавіка нехта пабіў шкло ў кіёску па вуліцы Стаханаўскай, а пасля пранік у кіёск.

> Злодзей вынес каля 950 рублёў выручкі і не менш за 30 пачак розных цыгарэт.

Следчыя ўзбудзілі крымінальную справу па артыкуле 205 Крымінальнага кодэкса. Падазраванага шукаюць.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

# Мужчыну другі раз злавілі на браканьерстве на Нарачы

МЯДЗЕЛ

Пракуратура Мядзельскага раёна накіравала ў суд крымінальную справу ў адносінах да жыхара вёскі Сосны.

33-гадовы мужчына злавіў рыбу забароненымі прыладамі менш як праз год пасля адміністрацыйнага спагнання за такое ж парушэнне. Летась у сакавіку гэты чалавек ужо спрабаваў лавіць рыбу нератам у Нарачы, за што 10 красавіка раённы суд пакараў яго штрафам 675 рублёў.

> Але сёлета ў лютым разам са знаёмым ён зноў паставіў на возеры Нарач дзве лёскавыя сеткі. З дапамогай гэтых забароненых прылад 15 лютага сябры здабылі двух шчупакоў, двух акунёў, а таксама сем сігаў.

Гэтым браканьеры нанеслі страты навакольнаму асяроддзю і рыбным запасам Рэспублікі Беларусь на агульную суму 754 рублі. Цяпер на фігуранта завялі крымінальную справу. Другога рыбака прыцягнулі да адміністрацыйнай адказнасці.

**Паводле narachanka.by.**

# Тэлефонныя махляры падманваюць жыхароў рэгіёна

МЯДЗЕЛ

Дзве крымінальныя справы за махлярства па тэлефоне ўзбудзілі днямі мядзельскія следчыя.

Пасля размовы з нібыта работнікамі банка ў жыхара Занарачы з карткі знікла 123 рублі. А жанчына з Мядзела, паведаміўшы махляру дадзеныя карткі, страціла 250 рублёў. Па абодвух выпадках узбудзілі крымінальныя справы па факце крадзяжу з выкарыстаннем камп'ютарнай тэхнікі. Падазраваных пакуль не знайшлі.

**Паводле narachanka.by.**

# Лепшым патрульным Міншчыны стаў вілейчук

ВІЛЕЙКА

Камандзір аддзялення патрульна-паставой службы Вілейскага РАУС **Міхаіл Качан** прызнаны лепшым супрацоўнікам сярод аналагічных падраздзяленняў Мінскай вобласці.

Качан працуе ў міліцыі больш за 25 год. У Вілейскім РАУС служыць сын Міхаіла Качана **Руслан**.

**Паводле УУС Мінаблвыканкама.**

# «Заахвочванні ў расійскія ВНУ – яшчэ адзін крок інтэграцыі»

**Падчас сёлетняй уступнай кампаніі беларускія абітурыенты змогуць паступаць у расійскія вышэйшыя навучальныя ўстановы, не здаючы адзіны дзяржаўны экзамен. Для паступлення трэба толькі падаць вынікі беларускага ЦТ. Расійскія ўстановы могуць праводзіць дадаткова ўнутраныя экзамены для абітурыентаў.**



Фота Яны БАРЫСАВАЙ.

Палітолаг лічыць, што калі беларускія дзеці з’язджаюць вучыцца ў Расію, верагоднасць, што яны вернуцца, блізкая да нуля.

Такая сітуацыя можа заахвоціць яшчэ большую колькасць абітурыентаў паехаць вучыцца ў Расію. Чаму гэта можа прывесці да сур’ёзных наступстваў, расказвае сітуацыю палітолаг **Вольга Харламава**:

– Звярніце ўвагу, як актывізаваліся расійскія ВНУ ў Беларусі.

> **У нас ёсць некалькі філіялаў расійскіх ВНУ, і яны не падпарадкоўваюцца беларускаму Міністэрству адукацыі. Пад беларускае заканадаўства яны трапляюць па падатках. А вось пад ідэалагічную частку – не.**

Самі фарміруюць праграму і запрашаюць вучыцца нашых абітурыентаў, у тым ліку бясплатна. Пастаянна павышаюць квоты са стыпендыяй і перспектывамі для беларускіх грамадзян.

Эксперт адзначае, што гэта адбываецца на фоне падзей у беларускіх ВНУ – звальненняў, не працягнення кантрактаў, незразумелай сітуацыі з ЦТ.

– На сустрэчы ў Сочы сярод іншага Пуцін сказаў, што вельмі рады, што беларускія абітурыенты абіраюць расійскія ВНУ, – дадае эксперт. – Заахвочванні ў расійскія ВНУ – яшчэ адзін крок інтэграцыі з Расіяй. Па выніках сёлетняй кампаніі Мінадукацыі ўбачыць наступствы такіх падзей. Беларускіх школьнікаў запрашаюць удзельнічаць у расійскіх алімпіядах, у тым ліку праз нашых настаўнікаў. Знешне гэта выглядае бяскрыўдна, але наступствы – вымыванне мазгоў і перспектыўных дзяцей з Беларусі. Калі дзеці з’язджаюць вучыцца ў Расію, верагоднасць, што яны вернуцца, блізкая да нуля. Нават з Польшчы большая верагоднасць, што вернуцца, чым з Расіі.

## «Людзі шугаліся, калі бачылі арла на вокладцы дыплома»

Тэорыю палітолага аб тым, што вярнуцца пасля вучобы з Польшчы больш шанцаў, чым з Расіі, мы папрасілі пракаментаваць маладзечанку **Аляксандру Парахню**, якая закончыла магістратуру ў Варшаўскім універсітэце:

– У Беларусі выкладаю польскую мову. Год не была ў Польшчы, цяпер якраз хадзіла да доктара. То нават я хвалявалася, што мову даўно ў жыцці не практыкавала, таму недакладна апішу сітуацыю, мяне не зразумеюць. Застацца ж у Расіі працей хацеў б па пытанні мовы.

Пасля вучобы ў Варшаве ў маладзечанкі была магчымасць застацца і працаваць. Яшчэ падчас вучобы яна пачала падпрацоўваць у арганізацыі, якая займалася міжнароднымі адукацыйнымі праектамі.

– Там быў цудоўны калектыў, і я спакойна магла застацца. І гэта была б не праца на касе ў таннай сеткавай краме ці збор клубніц, а творчасць, самаразвіццё – карацей, не першая лепшая праца, каб проста зачапіцца за краіну.

Але жанчына пасля вучобы вырашыла вярнуцца ў Беларусь. Яна так тлумачыць прычыну:

– Вялікую ролю ў маім вяртанні адыграла тое, што перад ад’ездам мела пазітыўны досвед працы ў Беларусі. Я працавала журналістам і адчувала важнасць сваёй працы – што сваімі тэкстамі магу прыцягваць увагу да праблемных тэм, магу дапамагчы таму, хто ў гэтым мае патрэбу – хоць і на лакальным узроўні, але ж гэта неверагодна важна. Мне было вельмі цяжка кінуць працу і зноў стаць студэнткай. Другі важны момант – у Беларусі ў мяне былі «мае» людзі – родныя, сябры, аднадумцы, гатовыя падтрымаць мае ідэі і пачынанні. Гэтыя людзі – і ёсць мой дом. Вядома, з імі можна было б падтрымліваць сувязь і з замежжа. А вось прыбіраць смецце, азеляняць двор, арганізоўваць фры-маркет, сядзець у кавярні і прыдумваць новае – не.

> **Так, у замежжы я таксама знайшла «сваіх» людзей. Але калі ў мяне ёсць выбар – азеляняць двор у Варшаве ці суседні двор у Маладзечне, я выберу другі варыянт, хай выбачаюць мне мае цудоўныя польскія сябры.**

Жанчына не спрабавала ўладкоўвацца ў Беларусі з польскім дыпломам. Ён вузкаскіраваны – спецыяліст па Балканскіх краінах. Такі спецыяліст можа быць цікавы ўстановам адукацыі або дыпламатычнаму корпусу. Але з такімі структурамі Аляксандра пакуль не хоча звязваць кар’еру.

– Беларускія сябры, якія апынуліся ў падобнай сітуацыі, казалі, што ў дзяржаўных установах людзі шугаліся, калі бачылі арла на вокладцы дыплома. Адразу ўзнікаюць падазрэнні – што не так з чалавекам, калі ён скончыў польскую ВНУ і прыехаў да нас? Чаму не застаўся? Нармальныя так не робяць, толькі нейкія з прыбабахам. А вось прыватныя ўстановы і фірмы часцей пазітыўна рэагуюць на замежную адукацыю.

> **Сувязі паміж Балканскімі краінамі і Беларуссю вельмі слабыя. Таму маладзечанка, каб не выпасці з кантэксту, чытае кнігі балканскіх аўтараў, глядзіць часам фільмы на сербскай мове, сочыць за навінамі з Балканаў.**

– Адзінае прымяненне адукацыі, якое я пакуль знайшла, – перакладаць сербскамоўных аўтараў на беларускую мову і знаёміць з імі беларусаў. Але гэта толькі на ўзроўні хобі. Яшчэ рэгулярна разумнічаю ў размовах з сябрамі, кідаючыся фактамі з гісторыі Балканаў. Але калі ў цябе замежны дыплом не балканазнаўцы, а, напрыклад, мастака ці доктара, то, думаю, лягчэй прымяніць сваю адукацыю на практыцы.

Аляксандра разумела, што спецыяльнасць балканіста не будзе вельмі запатрабаванай і папулярнай, яшчэ калі паступала:

– Вось тое і прыцягнула, што гэта такая тэра інкогніта, дзе шмат прасторы для дзеянняў і развіцця. Спадзяюся, што наступіць час, калі мае веды спатрэбяцца і ў Беларусі.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

# ПРЫВАТНЫЯ АБ'ЯВЫ

Транспарт • Нерухомасць • Паслугі • Праца • Рознае

* Аб'явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў інтэрнэце на сайце Rh.by

**Дзе падаць аб'яву**

| | |
|---|---|
| МАЛАДЗЕЧНА | Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518. Тэл. 8 (0176) **53-78-04**, 8 (029) **676-84-20.** |
| АСТРАВЕЦ | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. 8 (01591) **2-11-40.** |
| АШМЯНЫ | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. 8 (01593) **7-56-17.** |
| ВАЛОЖЫН | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. 8 (01772) **6-13-85.** |
| ВІЛЕЙКА | вул. Партызанская, 44, магазін «Парус». Тэл. 8 (01771) **2-00-83, 2-01-03.** |
| | вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. 8 (01771) **5-52-33, 5-55-39.** |
| МЯДЗЕЛ | вул. 17 Верасня, 2. Тэл. 8 (01797) **5-52-66, 5-57-65.** |
| СМАРГОНЬ | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. 8 (01592) **4-47-16.** |

## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

• Опель-Астра G, 2000 г.в., 1,7 ТД, універсал. Т. МТС (8-029) 8547426.*

• Дыскі жалезныя R14 (4х108), 4 шт., стаялі на Ford, нядорага. Т. (8-033) 366-81-81.*

• **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО**: крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак, глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага. ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, (8-0176) 707810.*

### КУПЛЮ

• **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-044) 4886067.***

• Аўто. Можна аварыйнае. Дорага! Т. (8-029) 5677052.*

• Любое аўто для сябе з пераафармленнем. Грошы адразу. Т. (8-029) 6510099, (8-029) 7646646.*

• Любое аўто на хаду для сябе з пераафармленнем. Грошы адразу. Т. (8-033) 3631161, (8-029) 1236722.*

• Матацыкл у любым стане. Т. (8-029) 7587953.*

## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

• Гараж у ГК №32 (Фестывальны). Атынкаваны, пафарбаваны, падвал на ўвесь гараж, забетанаваны. Крайні каля агароджы, ёсць магчымасць пашырэння. Т. (8-029) 3593950.*

• Гараж у раёне СПТВ. Т. (8-044) 5148342.*

• Дача ў Асінаўцы. Участак 10 сотак. 5 км ад Смаргоні. 50 м лес. Пладовыя дрэвы, кусты. Дом, хлеўчык, калодзеж, агароджа – сетка. Т. МТС (8-033) 3591382, (8-044) 5622655.*

• Дом у в. Беніца Маладзечанскага раёна, 0,25 га, гараж з ямай, гаспадарчыя пабудовы, сад. Т. (8-029) 8553487 МТС. *

• Дом у в. Талуць Вілейскага раёна. Гаспадарчыя пабудовы, водаправод. Т. (8-029) 8638553.*

• Дом у вёсцы Більцавічы Вілейскага раёна, 25 сотак. Т. (8-029) 7674753, (8-033) 3256297.*

• Дом у вёсцы Забрэззе Валожынскага раёна, 45 кв.м, 90 км ад Мінска. Побач лес, рэчка. Т. (8-044) 5407260 А1., (8-0176) 523885 дамашні.

• Дом у вёсцы Пранчэйкава Маладзечанскага раёна з гаспабудовамі і ўчасткам. Т. (8-0176) 500359, (8-033)6690160.*

• Зямельны ўчастак з пабудовамі, насаджэннямі. Абгароджаны. 0,10 га у в. Кардон Вілейскага раёна. Т. (8-044) 5148342.*

• Кватэра ў новабудоўлі Маладзечна. Т. (8-029) 9439184.*

• Участак у в. Чыжэвічы Вілейскага раёна, 15 сотак, вул. Чыжэвіцкая, 9-б. 500 м ад Вілейскага вадасховішча. Побач лес. Па вуліцы праведзены прыродны газ. Т. (8-029) 6686477.*

### КУПЛЮ

• Дом (лес, рэчка). Т. (8-029) 6511477.*

### ЗДАМ

• Кватэру ў Маладзечне. Т. МТС (8-029) 2103019.*

• У арэнду альбо прадам гандлёвае памяшканне ў Маладзечне па вул. Святаянскай, 75, пл. 370 кв. м, з рамонтам. ІП Заянчкоўскі І.С. УНП 691890017. Т. (8-029) 6278076.*

## ПАСЛУГІ

### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ

• **СПІЛУЕМ ДРЭВЫ.** ІП Мамай У.А. УНП 692014435 Т. МТС (8-029) 8886923.*

• Бухгалтарскі ўлік. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*

• Выраб розных металавырабаў, варот, брамак, агароджаў з сеткі і прафнасціла, навесы і г.д. Замер, дастаўка, устаноўка. ІП Мазалеўскі М.В. УНП 691514343. Т. (8-029) 5081330.*

• Каркаснае будаўніцтва. Вокны ПВХ. Дах, Сайдынг. Рамонт. Замена. Абслугоўванне. ІП Котаў У.І. УНП 692241473 Т. (8-029) 2541558, (8-029) 7659498.*

• Кладка, дах, фундамент. ІП Яновіч Ч.А. УНП 600163826 Т. (8-029) 5024571.*



• Рамонт тэлевізараў і падсветкі ЖК-тэлевізара. Гарантыя да 1 года. ІП Зелянко У.М. УНП 690040614. Т. МТС (8-029) 2710273, А (8-044) 5559347, (8-0176) 546298.*

• Рамонт халадзільнікаў у Вілейцы. Выезд дадому. Гарантыя. ІП Буцер А. УНП 690259548. Т. (8-029) 5024691.*

• **СПІЛУЕМ ДРЭВА.** Растэрміноўка. Скідкі. Акцыі. ІП Былінскі В.М. УНП 690475812. Т. (8-029) 5755757, (8-029) 3493379.*

## РОЗНАЕ

### ПРАДАЕЦЦА

**Будматэрыялы, сантэхніка**

• Блокі газасілікатныя з дастаўкай і выгрузкай. Можна ў растэрміноўку да 36 месяцаў. ІП Кірык Е.А. УНП 591819465 Т. (8-044) 7516244.*

• Вагонка, вольха, сасна. ПП «Маркціна Білд» УНП 690627804 Т. (8-029) 1891477, (8-029) 2518322.

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**



**Жывёла, птушка, пчолы**

• Вуллі 16-20 рамачныя. Т. (8-0176) 796765.

**Іншае**

• двое калёс конных, жалезны стан. Т. (8-0176) 796765.

• Дзіцячыя вароты бяспекі для лесвіц і дзвярэй (50 руб.). Маладзечна. Т. (8-033) 3668181.*



### КУПЛЮ

**Бытавую тэхніку**

• Няспраўныя плазменныя і LCD тэлевізары. Т. (8-029) 5634740.*

**Жывёла, птушка, пчолы**

• Куплю кабана, свінню. Т. 8-033-340-14-75.

**Іншае**

• 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. «Беларуская Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*

## ПРАЦА

### ШУКАЮ РАБОТУ

• Шукаю работу па рамонце драўляных дамоў: замена ніжніх вянцоў, а таксама рамонт фундаментаў, дахаў. Т. (8-029) 8745410.*

• Шукаю работу па рамонце халадзільнікаў, маразільнікаў. Запраўка фрэонам. Т. (8-029) 3395974.*





















**ПАДАЧА АБ'ЯЎ І РЭКЛАМЫ Ў БЛІЖЭЙШЫ НУМАР** «РЭГІЯНАЛЬНАЙ ГАЗЕТЫ» – **да 16:00 серады**

Аддзел рэкламы:
(8-0176) **53-78-04**
(тэл./факс),
(8-029) **676-84-20, 573-28-47**
E-mail: **reklama@rh.by**



**Рэклама ў «РГ»**
8 (0176) **53-78-04**
**reklama@rh.by**



Фота забяспечана Дыянай ГАЛУЗАЙ.

Падчас віншавання.

# Інспектары ДАІ павіншавалі жанчын з 8 Сакавіка

МАЛАДЗЕЧНА

**Пра тое, як адбывалася акцыя, расказала інспектар па адміністрацыйнай практыцы АДАІ Маладзечна Дыяна Галуза.**

– Акцыя на 8 сакавіка ўжо стала традыцыйнай. У гэты дзень у абавязкі інспектараў ДАІ ўваходзіць не толькі выяўленне парушальнікаў Правілаў дарожнага руху, але і ўручэнне кветак жанчынам-кіроўцам. Каля Палаца культуры інспектары ДАІ спынялі машыны для віншавання. Віншуючы жанчын і дзяўчат за рулём, інспектары жадалі ім святочнага настрою і бяспекі на дарогах. Таксама інспектары нагадалі кіроўцам аб Правілах дарожнага руху, звярнулі ўвагу на ўзаемаветлівыя паводзіны на дарозе кіроўцаў і пешаходаў, – адзначыла Дыяна.

Па словах інспектара, кветкі для акцыі забяспечыў адзін добры чалавек, які пажадаў застацца невядомым.

**Аддзел інфармацыі.**

## Дайджэст: Першы энергаблок АЭС зноў уключаны ў сетку, у Беларусі прачнуліся мядзведзі

**Прапануем прыгадаць важныя падзеі мінулага тыдня ў Беларусі і свеце.**

### Наступныя вялікія выхадныя будуць толькі ў маі

Мінулыя выхадныя ў Беларусі былі даўжэйшыя, чым звычайна. Мы адпачывалі тры дні. Наступныя вялікія выхадныя чакаюць беларусаў у маі. Тады будзем адпачываць чатыры дні запар: ад 8 да 11 мая (субота – аўторак), калі будзе адзначацца Радаўніца.

Працоўны дзень з 10 мая (панядзелак) перанесціца на суботу, 15 мая. Затое пасля ўсе святы прыпадаюць на суботу ці нядзелю. 3 ліпеня – субота, 7 лістапада – нядзеля, 25 снежня – нядзеля, 1 студзеня – субота.

### Першы энергаблок БелАЭС зноў уключаны ў сетку

Пасля выканання рэгламентных работ, прадугледжаных этапам дослядна-прамысловай эксплуатацыі, 8 сакавіка ў 02:14 першы энергаблок БелАЭС уключаны ў сетку. Ідзе павышэнне ўзроўню магутнасці рэактарнай установкі. Ранейшае адключэнне было 20 лютага.

### 8 сакавіка ў электрычцы «Мінск-Маладзечна» жанчыны чыталі беларускія кнігі

У святочны дзень у электрычцы «Мінск-Маладзечна» жанчыны ў бела-чырвонай вопратцы чыталі кнігі беларускіх аўтараў. Такім чынам яны выказалі падтрымку і салідарнасць з затрыманымі ў канцы лютага за чытанне беларускай літаратуры. У адной з жанчын, якая знаходзіцца за чытанні ў турме на сутках, 8 сакавіка – дзень народзінаў.

### У Бярэзінскім запаведніку прачнуліся мядзведзі

На тэрыторыі Зарэчнага лясніцтва ў паўднёвай частцы запаведніка заўважылі сляды мядзведзя, а аднаму з работнікаў у Бярэзінскім лясніцтве буры мядзведзь нават трапіўся на вочы. З гэтага вынікае, што вясна не толькі каляндарная, але і ў жыцці дзікіх насельнікаў запаведніка ўжо наступіла. Снежная зіма была больш спрыяльная для зімовай спячкі бурага мядзведзя, і яго з'яўленне пасля спячкі цалкам адпавядае сярэдняе шматгадовым.

### Толькі пяць краін у свеце цалкам знялі каронавірусныя абмежаванні

Такая лічба названая ў дакладзе Сусветнай турыстычнай арганізацыі ААН, апублікаваным на яе сайце ў панядзелак. Сярод адкрытых для турыстаў дзяржаў – Албанія, Дамініканская Рэспубліка, Коста-Рыка, Паўночная Македонія і Танзанія. Яны складаюць два працэнты ад агульнай колькасці турыстычных напрамкаў.

Пры гэтым кожная трэцяя краіна застаецца цалкам закрытай для падарожнікаў. Большасць з іх размешчаныя ў Азіяцка-Ціхаакіянскім рэгіёне, яшчэ 15 – у Еўропе, 10 – у Паўночнай і Паўднёвай Амерыцы, 10 – у Афрыцы і тры – на Блізкім усходзе.

Частковыя абмежаванні на ўезд турыстаў захоўваюцца яшчэ ў 34 працэнтах турыстычных напрамкаў.

**Паводле ТАСС, «Нашай Нівы», сайтаў Бярэзінскага запаведніка і Сусветнай турыстычнай арганізацыі.**

# Радасна, калі вучні бягуць да цябе, каб сказаць запаветнае «Hello»

## Настаўніца англійскай мовы падзялілася поглядамі на адукацыю і ўражаннямі ад працы

СМАРГОНЬ

**Спакон вякоў настаўнік быў прыкладам для вучня. Меў багаты багаж ведаў, да якога імкнулася юнае пакаленне. Аднак цяпер усё змянілася: і дзеці, і настаўнікі. Пра гэта мы гаварылі з маладым спецыялістам настаўніцай англійскай мовы сярэдняй школы №1 Смаргоні Таццянай Ілюковіч.**

### Прыйшла ў школу і засумнявалася ў некаторых методыках выкладання

Таццяна Сяргееўна скончыла Беларускі дзяржаўны лінгвістычны ўніверсітэт, атрымала дыплом выкладчыка замежных моў.

Па словах маладой настаўніцы, першыя месяцы працы ў школе не тое каб расчаравалі яе, але прымусілі засумнявацца ў некаторых методыках выкладання. Гэта не дзіўна, бо сучасны свет імкліва змяняецца, сітуацыі ўзнікаюць самыя непрадказальныя, і тым, хто працуе з дзецьмі, нельга памыляцца ў выбары ідэалаў. Бо ад іх выбару можа залежаць лёс іх вучняў.

### На ўроках глядзяць урыўкі з фільмаў і музычныя кліпы

Таццяна лічыць, што сучасныя вучні вельмі адрозніваюцца ад ранейшых, нават ад прадстаўнікоў яе пакалення. Напрыклад, з-за вялікага аб'ёму інфармацыі, атрыманай за дзень, яны не заўсёды могуць успрыняць веды, што ім даюць у школе. Маладыя спецыялісты, якія ў большай меры самі ўцягнутыя ў сучасныя інфармацыйныя тэхналогіі, лепш разумеюць патрэбы і асаблівасці сучаснага вучня.

Рыхтуючыся да чарговага ўрока, Таццяна Сяргееўна старанна адпрацоўвае тэму, шукае актуальны матэрыял, імкнецца выкарыстоўваць у адукацыі дзейсныя новыя тэхналогіі. Напрыклад, увагу вучняў яна прыцягвае, выкарыстоўваючы пазнавальныя гульні, урыўкі з папулярных фільмаў, музычныя кліпы. Таксама настаўніца праводзіць своеасаблівыя сацыяльныя эксперыменты, якія цяпер так любіць глядзець моладзь у ютубе.

### На навучанне ўплывае недахоп выхавання

Асаблівы падыход шукае малады педагог да тых дзяцей, якія патрапілі ў катэгорыю «цяжкіх навучэнцаў».

– Калі я заўважаю, што любая дапамога на словах можа толькі пагоршыць сітуацыю, – кажа Таццяна Сяргееўна, – то не навязваю вучню сваё меркаванне. Разумею, што часам лепш не чапаць яго. Толькі паступова ўключаю такога вучня ў «жыццё» ўрока.

На маё пытанне, ці заўсёды ўдаецца ўтрымліваць увагу дзяцей, асабліва гіперактыўных, мая суразмоўца адказала:

– За паўгода сваёй працы ў школе я пераканалася, што адна з галоўных праблем, якая непасрэдна ўплывае на навучальны працэс, – гэта недахоп выхавання. Цяпер многія бацькі перагружаны заклапочаныя сваім асабістым жыццём, працай, захапленнямі, чым дзіцем. Таму дзецям, якія прыходзяць у школу, не хапае ўвагі, і яны ўсяляк яе да сябе прыцягваюць, часта вельмі абуральнымі паводзінамі. Настаўнік жа бярэ на сябе абавязкі па выхаванні, прывіцці элементарных правілаў паводзін. Гэта значыць, педагог становіцца нібыта яшчэ адным з бацькоў, каб выхоўваць у дзяцей тыя якасці, якія яны не атрымалі ў сям'і. Школа павінна развіваць у дзіцяці духоўныя каштоўнасці, а маральныя – сям'я.

> Але разам з тым, настаўнік – гэта не дамашняя абслуга, якімі былі гувернанткі ў дваранскіх сем'ях. Таму стаўленне некаторых празмерна патрабавальных бацькоў выклікае ў многіх педагогаў не самыя лепшыя эмоцыі.



Таццяна Ілюковіч першы год працуе настаўніцай у смаргонскай СШ №1.

### Што такое булінг і як з ім змагацца настаўніку

Суразмоўца заўважае, што цяпер на прасторах інтэрнэту ў розных сацыяльных сетках папулярна падымаць тэмы, пра якія раней маўчалі. Булінг, прасцей кажучы, цкаванне, – актуальная ва ўсе часы праблема. Але сёння, з прыходам у наша жыццё інтэрнэту, яна набыла яшчэ больш шырокае распаўсюджанне. Падставай для прыніжэння чалавечай годнасці і абразаў вучня можа стаць што заўгодна: высокі рост, асаблівасці целаскладу, колер валасоў, адметныя паводзіны і многае іншае. У такіх сітуацыях настаўнік павінны дапамагчы, лічыць Таццяна.

Заўважае, што часам дзеці пакутуюць ад комплексаў, якія не даюць ім у поўнай меры атрымліваць асалоду ад жыцця. Роля настаўніка ў такіх выпадках важная. Ён павінны растлумачыць дзецям, што гэта ненармальна: абражаць і зневажаць іншых. Трэба знайсці падыход, не выпускаць сітуацыю з-пад кантролю, не апраўдваць такія выпадкі цяжкасцямі пераходнага ўзросту.

### Калі сэрца маладой настаўніцы напаўняецца гонарам

Зносіны паміж настаўнікам і вучнем, на думку Таццяны Сяргееўны, павінны быць адначасова і дзелавымі, і будавацца на даверы. Ва ўсім трэба ведаць меру. На думку маладога педагога, не варта, каб вучань успрымаў настаўніцу як сяброўку.

Мае Таццяна Сяргееўна сваё меркаванне на сістэму ацэньвання ведаў і агучвання гэтых адзнак. Так, бываюць выключэнні, калі ўвесь клас выдатна справіўся з заданнем.

Аднак такое здараецца не часта.

> І каб не адбіць у дзяцей жаданне вучыцца, не параніць іх самалюбства, не самыя лепшыя ацэнкі яна пакідае неагучанымі.

– Зносіны з дзецьмі – гэта самае цудоўнае, што ёсць у прафесіі выкладчыка, – дзеліцца суразмоўца.

> – Ніхто так не зможа парадаваць, як дзіця.

Сэрца перапаўняецца гонарам і радасцю, калі трэцякласнікі бягуць да цябе насустрач, каб сказаць запаветнае «Hello».

**Антон АНТОНАЎ,**
**студэнт факультэта журналістыкі БДУ.**
**Фота аўтара.**



# тэлетыдзень

**15-21 сакавіка**

Передрук праграмы забаронены.
У праграме магчымыя змяненні.

## 27 каналаў ад «Рэгіянальнай газеты»

● ПАДЗЕІ ТЭЛЕТЫДНЯ

## На Брытанскую кінапрэмію намінаваны чатыры жанчыны-рэжысёры

Брытанская кінаакадэмія аб'явіла намінантаў на прэмію BAFTA. Больш за ўсё намінацый атрымала «Зямля качэўнікаў» Хлоі Чжао і падлеткавая драма «Рокс».

У гэтым годзе ў рэжысёрскую намінацыю ўпершыню трапілі чатыры жанчыны. Акрамя Чжао, узнагарода можа дастацца Шэнан Мёрфі («Малочныя зубы»), Ясміле Жбаніч («Куды ты ідзеш, Аіда?») ці Сары Гаўрон («Рокс»).

**Паводле kinopoisk.ru.**



Фота qled.com.ua.

**Рэжысёр Хлоя Чжао – яе фільм «Зямля качэўнікаў» стаў хітом на сусветных кінапрэміях.**

## Памёр акцёр Мікалай Смарчкоў

На 91-м годзе жыцця памёр савецкі і расійскі акцёр Мікалай Смарчкоў. Прычынай смерці сталі ўскладненні з-за каронавіруса.

**Паводле unikino.ru.**

## Камедыя «Дзяўчына, якая падае надзеі» ўзяла аўстралійскі «Оскар» за фільм года

Чорная камедыя Эмеральда Фэнэла «Дзяўчына, якая падае надзеі» стала трыумфатарам прэміі AACTA (аналаг «Оскара» ў Аўстраліі). Стужка была названая фільмам года, а выканаўца галоўнай ролі Кэры Маліган – лепшай актрысай.

**Паводле film.ru.**

## «Кінатаўр» перанеслі на восень

Дырэкцыя фестывалю «Кінатаўр» заявіла, што эпідэміялагічная сітуацыя ў Расіі не дазваляе правесці маштабнае мерапрыемства летам. Таму яго перанясуць на восень. Ён пройдзе ў Сочы ад 18 да 25 верасня.

Прэзідэнтам кінафестывалю з'яўляецца прадзюсар **Аляксандр Раднянскі**. У мінулым годзе перамогу на «Кінатаўры» атрымала якуцкая стужка «Пудзіла».

**Паводле ТАСС.**



## «Дарагія таварышы!» прэтэндуюць на BAFTA і «Ніку»

Драма Андрэя Канчалоўскага «Дарагія таварышы!» намінаваная на прэмію Брытанскай кінаакадэміі ў катэгорыі «Лепшы фільм на замежнай мове». Расійская стужка будзе канкурыраваць з дацкай драмай «Яшчэ па адной», «Адрынутыя» з Францыі, «Мінары» і «Куды ты ідзеш, Аіда?».

Стужка Канчалоўскага лідзіруе па колькасці намінацый на прэміі «Ніка». Яна заяўленая ў дзевяці намінацыях, у тым ліку – і на лепшы гульнявы фільм.

**Паводле kino-teatr.ru.**

## Канцэмір Балагаў працуе над новым фільмам

Канцэмір Балагаў пачаў працу над новым праектам – ён здыме сямейную драму пад назвай «Моніка». Сцэнарый ствараецца сумесна Балагавым і Марынай Сцяпанавай.

Вядома, што падзеі карціны адбудуцца ў наш час у Кабардзіна-Балкарыі.

**Паводле kinometro.ru.**

## Вядома дата выхаду серыяла «Чыкаціла» Сарыка Андрэасяна

Кінасэрвіс Okko падзяліўся новым ролікам пра серыял «Чыкаціла». Праект можна будзе паглядзець ужо 18 сакавіка, і ён будзе складацца з васьмі эпізодаў.

Стваральнікам серыяла выступіў Сарык Андрэасян, для якога гэта першы досвед працы над вялікім серыялам. У аснову сюжэта лягла вядомая гісторыя серыйнага забойцы Андрэя Чыкацілы. Хто выканае галоўную ролю, дагэтуль не паведамляецца.

**Паводле film.ru.**

## Сталі вядомыя прэтэндэнты на анты-прэмію «Залатая маліна»

У інтэрнэце з'явіўся пашыраны спіс кандыдатаў на «Залатую маліну». У яго ўвайшлі фільмы «Дзіўная вандроўка доктара Дулітла» з Робертам Даўні-малодшым, «М'юзік» спявачкі Сіі, эратычны трылер з Польшчы «365 дзён» і сямейная драма «Элегія Хілбілі».

Сярод акцёраў «Залатая Маліна» адзначыла Тома Хардзі («Капонэ»), Адама Сэндлера («Хэлоўін Х'юбі»), Эн Хэтэўэй («Вядзьмаркі» і «Апошняе, што ён хацеў»), Шаю ЛаБафа («Выбіваючы даўгі»), Нікаласа Кейджа («Джыўджыцу») і іншых. Цырымонія пройдзе за дзень да «Оскара», 24 красавіка.

**Паводле awardswatch.com.**

## 8 канал

ВОСЬМОЙ

### ПОНЕДЕЛЬНИК, 15 МАРТА

**7.00, 16.00, 18.15, 21.00, 1.30** «Погода» + «Эрана».
**7.05** Мульт-парад «Чип и Дейл спешат на помощь».
**7.30, 16.05, 20.45** «Приколы 13-й школы».
**7.35** Т/с **«БЫВАЕТ И ХУЖЕ».**
**8.20** Т/с **«ЗАЩИЩАЯ ДЖЕЙКОБА».**
**9.25** Т/с **«КОРОНА».**
**10.20** Х/ф **«ДОВОД».**
**12.50** Т/с **«ЛЕЙТЕНАНТ КОЛОМБО».**
**14.30** Т/с **«ЧИСТО АНГЛИЙСКИЕ УБИЙСТВА».**
**16.10** «Мульт-парад».
**16.40** Т/с **«ЖЕЛТЫЙ ГЛАЗ ТИГРА».**
**18.30** Т/с **«ОТТЕПЕЛЬ».**
**19.45** Т/с **«ВАША ЧЕСТЬ».**
**20.50** «Вечарніца».
**21.05** Х/ф **«МАЛХОЛЛАНД ДРАЙВ».**
**23.35** Х/ф **«ДОМ ВОСКОВЫХ ФИГУР».**

### ВТОРНИК, 16 МАРТА

**7.00, 18.40, 21.00, 1.20** «Погода» + «Эрана».
**7.05** Мульт-парад «Чип и Дейл спешат на помощь».
**7.30, 20.45** «Приколы 13-й школы».
**7.35** Т/с **«БЫВАЕТ И ХУЖЕ».**
**8.20, 19.40** Т/с **«ВАША ЧЕСТЬ».**
**9.15, 18.45** Т/с **«ОТТЕПЕЛЬ».**
**10.30** «Готовь как шеф».
**10.50** Х/ф **«ЛЕГЕНДЫ ОСЕНИ».**
**12.50** Т/с **«ЛЕЙТЕНАНТ КОЛОМБО».**
**14.30** Т/с **«ЧИСТО АНГЛИЙСКИЕ УБИЙСТВА».**
**16.20** Погода+»Эрана».
**16.25** «Мульт-парад». «Ну, погоди».
**16.35** «Дети о еде «.
**17.00** Т/с **«ЖЕЛТЫЙ ГЛАЗ ТИГРА».**
**20.50** «Вечарніца».
**21.05** Х/ф **«БОЛЬШАЯ ИГРА».**
**23.20** Х/ф **«ЛУЧШЕЕ ВО МНЕ».**

### СРЕДА, 17 МАРТА

**7.00, 16.15, 18.45, 21.00, 1.15** «Погода» + «Эрана».
**7.05** Мульт-парад «Чип и Дейл спешат на помощь».
**7.30, 16.20, 20.45** «Приколы 13-й школы».
**7.35** Т/с **«БЫВАЕТ И ХУЖЕ».**
**8.25, 19.45** Т/с **«ВАША ЧЕСТЬ».**
**9.25, 18.50** Т/с **«ОТТЕПЕЛЬ».**
**10.25** «Дети о еде».
**10.50** Х/ф **«БОЛЬШАЯ ИГРА».**
**13.05** Т/с **«ЛЕЙТЕНАНТ КОЛОМБО».**
**14.45** Т/с **«ЧИСТО АНГЛИЙСКИЕ УБИЙСТВА».**
**16.25** «Мульт-парад». «Царевна-лягушка».
**17.00** Т/с **«ЖЕЛТЫЙ ГЛАЗ ТИГРА».**
**20.50** «Вечарніца».
**21.05** Х/ф **«ЗАВИСТЬ БОГОВ».**
**23.15** Х/ф **«ТОМБ РАЙДЕР. ЛАРА КРОФТ».**

### ЧЕТВЕРГ, 18 МАРТА

**7.00, 15.45, 18.45, 21.00** «Погода» + «Эрана».
**7.05** Мульт-сериал «Чип и Дейл спешат на помощь».
**7.30, 20.45** «Приколы 13-й школы».
**7.35** Т/с **«БЫВАЕТ И ХУЖЕ».**
**8.20, 19.45** Т/с **«ВАША ЧЕСТЬ».**
**9.20, 18.50** Т/с **«ОТТЕПЕЛЬ».**
**10.15** СБ ТВ Гороскоп.
**10.25** Х/ф **«ЗАВИСТЬ БОГОВ».**
**12.35** Т/с **«ЛЕЙТЕНАНТ КОЛОМБО».**
**14.15** Т/с **«ЧИСТО АНГЛИЙСКИЕ УБИЙСТВА».**
**15.50** «Мульт-парад». «Новый Аладдин».
**16.00** Т/с **«ЗАЩИТНИК».**
**19.30** «Фешн is my профешн».
**20.50** «Вечарніца».
**21.05** Х/ф **«ХИЩНИК».**
**22.50** Х/ф **«ВТОРЖЕНИЕ».**
**1.00** «Погода».

### ПЯТНИЦА, 19 МАРТА

**7.00, 16.05, 19.45, 21.00, 2.15** «Погода» + «Эрана».
**7.05** Мульт-сериал «Чип и Дейл спешат на помощь».
**7.30, 20.45** «Приколы 13-й школы».
**7.35** Т/с **«БЫВАЕТ И ХУЖЕ».**
**8.20, 19.50** Т/с **«ВАША ЧЕСТЬ».**
**9.20, 18.45** Т/с **«ОТТЕПЕЛЬ».**
**10.15** Д/ф.
**10.45** Х/ф **«ВТОРЖЕНИЕ».**
**12.55** Т/с **«ЛЕЙТЕНАНТ КОЛОМБО».**
**14.35** Т/с **«ЧИСТО АНГЛИЙСКИЕ УБИЙСТВА».**
**16.10** «Мульт-парад».
**16.20** «Готовь как шеф».
**16.40** Т/с **«ЗАЩИТНИК».**
**20.50** «Вечарніца».
**21.05** Х/ф **«ХИЩНИК-2».**
**22.50** Х/ф **«ХИЩНИКИ».**
**0.35** Х/ф **«ХЭППИ ЭНД».**

### СУББОТА, 20 МАРТА

**7.00, 16.10, 19.15, 21.25** «Погода» + «Эрана».
**7.05** «Мульт-парад». «Добрыня Никитич и Змей Горыныч».
**8.15** «Приколы 13-й школы».
**8.20** Х/ф **«КОРОЛЕВА БЕНЗОКОЛОНКИ».**
**9.30** «Дети о еде».
**9.50, 11.25, 13.00, 14.35** Т/с **«ДЕЛО ГАСТРОНОМА».**
**16.15** «Смотрим всей семьей». «Картинг».
**18.00** «Мульт-парад».
**19.20** Х/ф **«ZERO».**
**21.00** «Вечарніца».
**21.10** «Фешн Is my профешн».
**21.30** Х/ф **«ХИЩНИК».**
**23.15** Х/ф **«ЧУЖОЙ ПРОТИВ ХИЩНИКА».**
**0.55** Х/ф **«ОХОТА ЗА МОНСТРАМИ».**
**2.35** «Погода».

### ВОСКРЕСЕНЬЕ, 21 МАРТА

**7.00, 1.00** «Погода».
**7.05** «Мульт-парад».
**8.20** «Приколы 13-й школы».
**8.25** Х/ф **«ЦАРЕУБИЙЦА».**
**10.10** «Готовь как шеф-11».
**10.30, 11.55** Х/ф **«ЗВЕЗДА ПЛЕНИТЕЛЬНОГО СЧАСТЬЯ».**
**13.15, 17.10, 20.00, 21.00** «Погода» + «Эрана».
**13.20** «Смотрим всей семьей». «Том и Джерри».
**15.00** Х/ф **«ЧУЖОЙ ПРОТИВ ХИЩНИКА».**
**16.45** «Ароматы кантонской кухни».
**17.15** Х/ф **«МИСС МАРПЛ. КАРМАН ПОЛНЫЙ РЖИ».**
**19.15** «Суперлото».
**20.05** Т/с **«ПРОЕКТ «СИНЯЯ КНИГА».**
**20.50** «Вечарніца».
**21.10** Х/ф **«ПРОЛЕТАЯ НАД ГНЕЗДОМ КУКУШКИ».**
**23.25** Х/ф **«ШЕСТЬ ДНЕЙ, СЕМЬ НОЧЕЙ».**

## МКТВ

### ПОНЕДЕЛЬНИК, 15 МАРТА

**6.30** Х/ф **«ВСЕ О МУЖЧИНАХ».**
**8.00** Земля, на таланты щедрая.
**9.00** Х/ф **«КАНИКУЛЫ МЕЧТЫ».**
**10.35** Х/ф **«ЛЕГОК НА ПОМИНЕ».**
**12.00, 15.00, 17.00** Экспресс-новости.
**12.05** Х/ф **«ЛЮБИТ, НЕ ЛЮБИТ».**
**13.35** Мультфильмы «Любовь прет-а-порте».
**15.05** Х/ф **«ОПЕРАЦИЯ «ТУШЕНКА».**
**17.05** Х/ф **«ВСЕ ИЛИ НИЧЕГО».**
**19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**19.15** Диалоговая площадка «Славим трудом».
**20.15** Х/ф **«ОДНОЙ ЛЕВОЙ!».**
**22.15** Мажорный лад.

### ВТОРНИК, 16 МАРТА

**6.30** Песня на завтрак.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**7.25, 22.15** Мажорный лад.
**8.25** Х/ф **«ГУЛЯЙ, ВАСЯ!».**
**10.00** Х/ф **«КРЫСИНЫЕ БЕГА».**
**12.00, 15.00, 17.00** Экспресс-новости.
**12.05** Х/ф **«ДЕНЬ СУРКА».**
**13.45** Мультфильмы «Иван Царевич и Серый Волк».
**15.05** Х/ф **«ЗАМУЖ НА 2 ДНЯ».**
**17.05** Х/ф **«КЛИК. С ПУЛЬТОМ ПО ЖИЗНИ».**
**19.15** Рядом со звездами.
**20.15** Х/ф **«НА КРЮЧКЕ!».**

### СРЕДА, 17 МАРТА

**6.30, 7.40** Песня на завтрак.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**7.25** Будьте здоровы.
**8.25** Х/ф **«100 МИЛЛИОНОВ ЕВРО».**
**10.00** Х/ф **«ПУТЕШЕСТВИЕ ГЕКТОРА В ПОИСКАХ СЧАСТЬЯ».**
**12.00, 15.00** Экспресс-новости.
**12.05** Х/ф **«СВИДЕТЕЛЬ НА СВАДЬБЕ».**
**13.40** Х/ф **«ЛЮБИТ, НЕ ЛЮБИТ».**
**15.05** Х/ф **«ЗЕЛЕНАЯ КНИГА».**
**17.15** Х/ф **«КУХНЯ В ПАРИЖЕ».**
**19.15** Мастерство и вдохновение.
**20.30** Музыкальная открытка.
**22.15** Мажорный лад.

### ЧЕТВЕРГ, 18 МАРТА

**6.30, 7.15** Песня на завтрак.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**8.23** Х/ф **«СТАРСКИ И ХАТЧ».**
**10.00** Х/ф **«РОЖДЕСТВЕНСКИЕ ХРОНИКИ».**
**12.00, 15.00, 17.00** Экспресс-новости.
**12.05** Х/ф **«МАСКА ЗОРРО».**
**14.30, 22.15** Мажорный лад.
**15.05** Х/ф **«БАРХАТНЫЕ РУЧКИ».**
**17.05** Х/ф **«ВАСАБИ».**
**19.20** Будьте здоровы.
**20.20** Х/ф **«КАК Я СТАЛ РУССКИМ».**

### ПЯТНИЦА, 19 МАРТА

**6.30** Песня на завтрак.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**7.15** «Мая Радзіма».
**8.25** Х/ф **«ГРИНЧ».**
**9.50** Х/ф **«ЗЕЛЕНАЯ КНИГА».**
**12.00, 15.00, 17.00** Экспресс-новости.
**12.05** Х/ф **«ДРУГ НЕВЕСТЫ».**
**13.45** Мультфильмы «Добрыня Никитич и Змей Горыныч».
**15.05** Х/ф **«ОТ СЕМЬИ НЕ УБЕЖИШЬ».**
**17.05** Х/ф **«БАНДИТКИ».**
**18.40, 22.20** Мажорный лад.
**19.25** Будьте здоровы.
**20.20** Х/ф **«30 СВИДАНИЙ».**

### СУББОТА, 20 МАРТА

**6.30, 8.25** Песня на завтрак.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**7.30** Мастерство и вдохновение.
**9.00** Х/ф **«РОЖДЕСТВЕНСКИЕ ХРОНИКИ 2».**
**11.00** Х/ф **«ХОЛОП».**
**12.45** Земля, на таланты щедрая.
**13.00** Х/ф **«МЕЖДУ АНГЕЛОМ И БЕСОМ».**
**14.50** Шанхайский полдень.
**16.40** Х/ф **«БОЛЬШЕ, ЧЕМ ДРУГ».**
**19.30** Мнения и факты.
**20.30** Музыкальная открытка.
**22.20** Мажорный лад.

### ВОСКРЕСЕНЬЕ, 21 МАРТА

**6.30** Х/ф **«РЭД».**
**8.20** Х/ф **«РЭД 2».**
**10.20** Х/ф **«ОДИН ВДОХ».**
**12.00** Х/ф **«ПУТЕШЕСТВИЕ НА ЛУНУ».**
**13.35** Земля, на таланты щедрая.
**13.50** Х/ф **«ШОПО-КОП».**
**15.20** Х/ф **«РОЖДЕСТВО НА ДВОИХ».**
**17.05** Х/ф **«ИГРУШКА».**
**17.40** Х/ф **«ДЕДУШКА НЕЛЕГКОГО ПОВЕДЕНИЯ».**
**19.20** Х/ф **«ИНСТРУКЦИИ НЕ ПРИЛАГАЮТСЯ».**
**21.20** Х/ф **«ЛЮБИТ, НЕ ЛЮБИТ».**

## Беларусь 1

**6.20** Х/ф **«ЛАБИРИНТЫ СУДЬБЫ «.**

**8.20** Клуб редакторов.

**9.00, 12.00, 15.00, 19.00** Новости.

**9.10** «Арсенал». Программа об армии.

**9.40** Истории спасения.

**10.10** «Зона Х». Итоги недели.

**10.40** Маршрут построен.

**11.20, 12.35** Х/ф **«ДОМИК НА СЧАСТЬЕ 2».**

**12.10** Новости. Центральный регион.

**13.35** «Я знаю». Шоу-викторина для всей семьи.

**15.15** Дай пять.

**15.30** Вокруг планеты.

**16.15** «Повод есть».

**16.45, 19.10** Х/ф **«ЗА ЛУЧШЕЙ ЖИЗНЬЮ».**

**20.35** Навіны надвор'я.

**21.00** Главный эфир.

**22.05** Х/ф **«БЕЗ КОЛЕБАНИЙ».**

## Беларусь 2

**6.00** «Включайся. Лучшее за неделю». Утреннее шоу.

**8.00, 19.40** Телебарометр.

**8.05** Т/с **«КЛОН».**

**10.00** Т/с **«ТИМОН И ПУМБА».**

**10.20** «Три первых свидания». Реалити-шоу.

**11.10** Х/ф **«СОКРОВИЩЕ НАЦИИ».**

**13.25** «На ножах». Кулинарное реалити-шоу.

**14.25** «Папа попал». Реалити-шоу.

**16.50** «Башня». Интеллектуально-развлекательное шоу.

**17.40** Х/ф **«АСТРАЛ: ГЛАВА ВТОРАЯ».**

**20.10** «Орел и Решка. Перезагрузка». Трэвел-шоу.

**21.10** Спортлото 5 из 36, КЕНО.

**21.15** Х/ф **«ПРОСТИ, ХОЧУ НА ТЕБЕ ЖЕНИТЬСЯ».**

**23.20** «Любовь на выживание». Романтическое реалити-шоу.

## Беларусь 3

**7.30** «Святыні Беларусі».

**8.00, 14.00** Навіны культуры.

**8.10** «Лёс чалавека». Мастацкі фільм СТ.

**10.00** «Наперад у мінулае».

**10.20** «Беларуская кухня». Квас з селядцом.

**10.45** «Нацыянальны хіт-парад».

**11.40** «Артыстка з Грыбава». Мастацкі фільм.

**14.20** «Народны майстар». Святлана Скаўвырка (маляваныя дываны).

**14.45** «Сваімі словамі». Тэлевіктарына.

**15.25** «Ідзі і глядзі». Мастацкі фільм.

**17.50** «Запіскі на палях». Францішак Багушэвіч: бацька і дзеці. СТ.

**18.15** «Дзень добры і бывай». Мастацкі фільм.

**19.50** «Кадры жыцця».

**20.40** «Калыханка».

**21.05** «Будзьце маім мужам». Мастацкі фільм СТ.

**22.35** «Залаты россып аперэты». Канцэрт.

## ОНТ

**7.00, 9.00, 16.00** Наши новости.

**7.10** «Здоровье».

**8.10** «Жанна Бадоева в проекте-путешествии «Жизнь других».

**9.10** ОНТ представляет: «Метеогид».

**9.30** «Теория заговора».

**10.30** ОНТ представляет: «Народный повар».

**11.50** «Видели видео?».

**14.00** Т/с **«СВАДЬБЫ И РАЗВОДЫ».**

**16.20** Премьера. «Я почти знаменит». Большой финал.

**18.50** «Точь-в-точь». Новый сезон.

**20.00** «Контуры».

**21.20** «Точь-в-точь». Новый сезон Продолжение.

**22.50** ОНТ представляет: «Спортклуб».

**23.10** Владимир Познер и Иван Ургант в проекте «Их Италия».

## СТВ

**6.00, 23.55** «Секретные территории».

**8.30** Документальный проект.

**9.00** «Минтранс».

**10.00** «Добро пожаловаться».

**10.30** «Большой город».

**11.00** «Неизвестная история».

**12.35** «Знаете ли вы что?».

**13.30, 16.30** Новости «24 часа».

**13.40, 16.40** Т/с **«ЭНИГМА».**

**19.30** «Неделя».

**21.05** «Засекреченные списки».

## Мир

**5.00, 1.55** Х/ф **«ЗАМЕРЗШИЕ В ЛЮБВИ».**

**5.15** Мультфильмы.

**6.00** Х/ф **«ДЕЛОВЫЕ ЛЮДИ».**

**7.35** Х/ф **«ЗАЙЧИК».**

**9.25** «ФазендаЛайф». Оригинал.

**10.00, 16.00** Новости.

**10.10, 16.15, 19.30, 1.00** Т/с **«ВТОРОЕ ЗРЕНИЕ».**

**18.30, 0.00** Итоговая программа «Вместе».

**3.20** Х/ф **«СЕРДЦА ЧЕТЫРЕХ».**

## НТВ-Беларусь

**6.00** «Астропрогноз».

**6.10** «Тело человека».

**6.45** Беларусы.

**7.20** «50 рецептов первого».

**8.00, 10.00, 16.00** «Сегодня».

**8.20** «24 вопроса».

**8.45** «Города Беларуси».

**9.20** «Я хочу это увидеть!».

**10.20** «Квартирный вопрос. Ву».

**10.55** «Первая передача».

**11.25** «Чудо техники».

**12.15** «Дачный ответ».

**13.15** «НашПотребНадзор».

**14.10** Х/ф **«ПОКУШЕНИЕ».**

**16.20** «Следствие вели…».

**18.00** «Новые русские сенсации».

**19.00** «Итоги недели» с Ирадой Зейналовой.

**20.05** «Ты не поверишь!».

**21.15** «Звезды сошлись».

**22.35** «Понять и обезвредить». Авторский проект Елены Дамиевой.

**23.05** Х/ф **«ЧУЖОЕ ЛИЦО».**

## БЕЛАРУСЬ РТР

**7.05** Т/с **«ОЙ, МА-МОЧКИ!..».**

**11.00** Х/ф **«СЛАБАЯ ЖЕНЩИНА».**

**14.30** ПРЕМЬЕРА. «Парад юмора».

**16.05** Х/ф **«НЕОТПРАВЛЕННОЕ ПИСЬМО».**

**20.00** ВЕСТИ НЕДЕЛИ.

**21.05** «В людях».

**21.45** МОСКВА. КРЕМЛЬ. ПУТИН.

**22.25** «Воскресный вечер с Владимиром Соловьевым».

# кіно і спорт

### TV1000

**5.05** Голодные игры. **7.35** Голодные игры: И вспыхнет пламя. **10.10** Голодные игры: Сойка-пересмешница. Часть I. **12.20** Голодные игры: Сойка-пересмешница. Часть II. **14.45, 3.15** Солт. **16.30** Ванильное небо. **19.00** Обливион. **21.10** Миссия «Серенити». **23.25** Элизиум: Рай не на Земле. **1.15** Мистер и миссис Смит.

### TV1000 ACTION

**5.10** Вавилон Н.Э. **6.50** Человек-паук. **9.00** Человек-паук 2. **11.15** Человек-Паук 3. **13.40** Обитель зла 4: Жизнь после смерти. **15.20** Обитель зла: Возмездие. **17.00** Джонни Д. **19.25** Однажды в Америке. **23.25** Легенда. **1.45** Хэллоуин. **3.15** Хэллоуин 2. **4.40** Ничего себе поездочка.

### TV1000 РУССКОЕ КИНО

**5.30** Гардемарины III. **7.50** Водитель для Веры. **10.35** Коллектор. **11.55** Выкрутасы. **13.40** Тайна печати дракона. **15.50** Эбигейл. **17.45** Невеста. **19.30** Побочный эффект. **21.20** Спарта. **23.00** Русский рейд. **0.55** Ночные стражи. **2.30** Тёмный мир. **4.05** Тёмный мир: Равновесие.

### ТВ3

**6.00, 9.30** Мультфильмы. **9.00** «Новый день». **11.00** Х/ф **«ЗНАКОМЬТЕСЬ: ДЖО БЛЭК». 14.45** Х/ф **«ПРОКЛЯТИЕ АННАБЕЛЬ». 16.45** Х/ф **«ЗАКЛЯТИЕ». 19.00** Х/ф **«ПОСЛЕДНИЙ ОХОТНИК НА ВЕДЬМ». 21.00** Х/ф **«ПИКОВАЯ ДАМА: ЗАЗЕРКАЛЬЕ». 22.45** «Последний герой. Чемпионы против новичков». **0.15** Х/ф **«АСТРАЛ». 2.00** «Дневник экстрасенса с Татьяной Лариной». **3.00** «Громкие дела». **3.45, 4.30** «Городские легенды». **5.15** «Тайные знаки».

### ФЕНИКС

**8.00, 9.00, 10.00, 11.00, 16.00, 17.00, 18.00, 19.00** Т/с **«ДВЕ СУДЬБЫ». 12.00, 20.00, 4.00** Т/с **«СУЧЬЯ ВОЙНА». 13.00, 21.00, 5.00** Т/с **«ЕРМОЛОВЫ». 14.00, 22.00, 6.00** Т/с **«ИНКВИЗИТОР». 15.00, 23.00** Т/с **«ПОД БОЛЬШОЙ МЕДВЕДИЦЕЙ». 0.00, 1.00** Т/с **«ТАТЬЯНИН ДЕНЬ». 2.00, 3.00** Т/с **«НЕРАВНЫЙ БРАК». 7.00** Т/с **«МОЙ ГЕНЕРАЛ».**

### КИНОКОМЕДИЯ

**1.25** Х/ф **«ВУЛКАН СТРАСТЕЙ». 3.00** Х/ф **«ВСЕ ВКЛЮЧЕНО 2». 4.40** Х/ф **«ОДНАЖДЫ ПРЕСТУПИВ ЗАКОН». 6.15** Х/ф **«ЛЮБИТ НЕ ЛЮБИТ». 7.50** Х/ф **«УДАЧИ, ЧАК». 9.40** Х/ф **«ТЕЛОХРАНИТЕЛЬ КИЛЛЕРА». 11.50** Х/ф **«SUPERЗЯТЬ». 13.40** Х/ф **«СЛУЧАЙНЫЙ ШПИОН». 15.20** Х/ф **«НАЧАЛО ВРЕМЁН». 17.10** Х/ф **«ТРИНАДЦАТЬ ДРУЗЕЙ ОУШЕНА». 19.30** Х/ф **«БЕЗ ЧУВСТВ». 21.15** Х/ф **«ОСЛЕПЛЕННЫЙ ЖЕЛАНИЯМИ». 22.55** Х/ф **«(НЕ)ЖДАННЫЙ ПРИНЦ».**

### КИНОСЕРИЯ

**0.45** Т/с **«ФАРЦА». 1.50, 2.45, 3.40, 4.30, 5.25, 6.20, 21.25, 23.30** Т/с **«ЛЮТЕР». 7.25, 8.15, 9.15, 10.05** Т/с **«ЧИСТО АНГЛИЙСКИЕ УБИЙСТВА». 11.00** Т/с **«ДЖОН УИК 3». 13.20, 14.20, 15.20, 16.20, 17.20, 18.20, 19.20, 20.25** Т/с **«НАУЧИ МЕНЯ ЖИТЬ».**

### ВТВ

**6.05** «ДУРАКИ И ДОРОГИ». **7.25** Шоу «УТРО С ЮМОРОМ». **9.25, 16.45** «КВН. ПА-НАШАМУ». **10.00, 2.20** Make-over шоу «РОГОВ В ДЕЛЕ». **11.00** Шоу «МИША ПОРТИТ ВСЁ». **12.00** Реалити-шоу «НАШ РЕМОНТ». **12.40** Х/ф **«РОБОСАПИЕН: ПЕРЕЗАГРУЗКА». 14.20** Т/с **«КОРНИ». 17.20** Х/ф **«13-Й РАЙОН». 19.00** Х/ф **«СВАДЕБНЫЙ ПЕРЕПОЛОХ». 21.00** Шоу «СТЕНДАП АНДЕГРАУНД». **22.00, 1.05** Юмористическое шоу «УРАЛЬСКИЕ ПЕЛЬМЕНИ». **23.30** Travel-шоу «СЕЛАПОЛЕТЕЛА». **0.15** «КИНО В ДЕТАЛЯХ». **1.55** «ПРОСТО КУХНЯ». **3.10** Скетч-шоу «ДАЁШЬ МОЛОДЁЖЬ». **4.45** Скетч-шоу «6 КАДРОВ».

### БЕЛАРУСЬ 5

**6.25** Биатлон. Кубок мира. Эстерсунд. Гонка преследования. Женщины. Мужчины. **7.55** Теннис. WTA. Монтеррей. Полуфинал. **10.00** Футбол. Чемпионат Англии. **11.50** Питстоп. **12.20** Хоккей. Чемпионат Беларуси. Полуфинал. Третий матч. **14.50** Биатлон. Кубок мира. Эстерсунд. Масстарт. Женщины. **15.50** Спорт-центр. **17.25** Биатлон. Кубок мира. Эстерсунд. Масстарт. Мужчины. **18.00** Футбол. Чемпионат Англии. Вест Хэм – Арсенал. В перерыве Спорт-центр. **19.50** Баскетбол. Единая лига ВТБ. Цмокі-Мінск – Астана (Нур-Султан). **21.05** Итоги недели. **21.50** Футбол. Беларусбанк – Чемпионат Беларуси. Второй тур. Обзор. **22.30** Футбол. Чемпионат Англии. Астон Вилла – Тоттенхэм. В перерыве Спорт-центр.

### EUROSPORT

**0.45** Сноуборд. Кубок мира. Вейзонна. Борд-кросс. **1.45, 6.00** Горные лыжи. Кубок мира. Ленцерхайде. Мужчины. Слалом-гигант. 2-я попытка. **2.45, 7.00, 10.30** Горные лыжи. Кубок мира. Ленцерхайде. Женщины. Слалом. 2-я попытка. **3.30, 9.30** Велоспорт. «Милан – Сан-Ремо». **5.00, 21.15** Сноуборд. Кубок мира. Аспен. Слоупстайл. **8.00** Биатлон. Кубок мира. Эстерсунд. Мужчины. Пасьют. **8.30** Биатлон. Кубок мира. Эстерсунд. Женщины. Пасьют. **9.00** Лыжное двоеборье. Кубок мира. Шонах. Гонка преследования. 10 км. **10.50** Горные лыжи. Кубок мира. Ленцерхайде. Женщины. Слалом-гигант. 1-я попытка. Прямая трансляция. **12.00** Горные лыжи. Кубок мира. Ленцерхайде. Мужчины. Слалом. 1-я попытка. Прямая трансляция. **13.30** Горные лыжи. Кубок мира. Ленцерхайде. Женщины. Слалом-гигант. 2-я попытка. Прямая трансляция. **15.00** Биатлон. Кубок мира. Эстерсунд. Женщины. Масс-старт. Прямая трансляция. **15.45** Горные лыжи. Кубок мира. Ленцерхайде. Мужчины. Слалом. 2-я попытка. Прямая трансляция. **16.45** Лыжное двоеборье. Кубок мира. Шонах. Гонка преследования. 10 км. Прямая трансляция. **17.25** Биатлон. Кубок мира. Эстерсунд. Мужчины. Масс-старт. Прямая трансляция. **18.15** Фристайл. Кубок мира. Аспен. Хафпайп. Прямая трансляция. **20.15** Фристайл. Кубок мира. Вейзонна. Ски-кросс. **21.50** Сноуборд. Кубок мира. Аспен. Хафпайп. Прямая трансляция. **23.45** Велоспорт. Трофей Альфредо Бинды. Женщины.

# хобі і адпачынак

### ДРАЙВ

**6.00** Проверка на дороге. **6.30, 14.00, 1.10** Вторичка. **6.45, 17.55** Трасса А2. **7.30, 19.05** Легенды автопрома. **7.45** Вечер с Пикуленко. **8.30, 10.35, 13.25, 16.40, 18.45, 23.25, 1.25, 3.45** Итоговые новости. **8.50** Тест в большом городе. **9.25** Испытание на прочность. **10.00** Все включено. **10.55** Кузовной ремонт. **11.25** Автолайф. **11.45, 19.25, 22.50, 3.10** Возвращение легенды. **12.15, 20.10, 23.45, 4.00** Стальные парни. **13.05, 13.45, 0.30** Тест с дядей Ваней. **14.20, 1.40** Тест на «Драйве». **15.20, 21.00, 4.50** Эконом-тест. **15.40, 21.20, 5.00** Это Родина твоя. **16.10, 21.50** За рулем каждый день. **16.55, 22.20** Сделано в России. **17.25, 2.40** Сити-тестер. **20.00** Наезд! **5.35** Авто: вторые руки.

### EXPLORE

**6.10, 7.00, 7.55** Речные чудовища. **8.45** Чудовищный карп. **9.35, 21.30** Ледовые викинги. **10.25, 23.05** Снос в Австралии. **11.10, 22.15, 1.30, 2.15, 3.05, 3.50, 4.40** Австралийские охотники на лобстеров. **12.00, 12.45, 13.35, 14.20, 15.10, 15.55, 16.45, 17.30, 18.20, 19.05, 19.55** Австралийские золотоискатели. **20.40, 21.05** Нефритовая лихорадка. **23.55, 0.40** Драндулеты на продажу. **5.25** Рыбалка со звездами.

### HISTORY

**6.00, 6.45** Тайны музеев. **7.35** Лондон: 2000 лет истории. **8.20** Падение империи. **9.10, 10.10** Древние суперстроения. **11.00, 11.55** Земля больших кошек. **12.45, 13.40, 0.45, 1.40** Разгадка тайны пирамид. **14.30** По следам вождя гуннов Аттилы. **15.20, 16.10** Версаль: испытания Короля-солнца. **17.00, 17.50** Помпеи: 48 часов до катастрофы. **18.40** Невидимый город Рим. **19.40** Помпеи: после извержения. **20.50, 21.40** Титаник: истории из глубины. **22.25** Война во Вьетнаме. **23.15, 0.00, 2.30, 3.15** Музейные тайны. **4.00, 4.50** Запретная история. **5.35** Родовые проклятья.

### NATURE

**6.00** Динозавры в Австралии. **6.45** Нераскрытое дело динозавра. **7.35** Тайны великанов Ледникового периода. **8.30** Вскрытие мамонта. **9.20, 10.10, 11.05** Огромные звери: последние из великанов. **11.55, 12.55, 14.00** Великая американская оттепель. **15.00, 16.05** Уэльс: дикая земля. **17.10, 18.00** Экспедиция в Европу. **18.55** Загадка полярного сияния. **19.50** Медведь – спасатель коал. **20.40, 21.35, 22.25, 23.20** Речные чудовища. **0.15** Невероятные встречи с животными. **1.00** Рассказы о бурях. **1.45, 4.20, 5.10** Выживание в дикой природе. **2.40** В зоопарке Таронга. **3.25** Уличный ветеринар. **3.55** Лучшие друзья собаки.

### NATIONAL GEOGRAPHIC

**6.00** Фабрика еды. **6.20, 2.00, 2.45** Авто – SOS. **7.10** Научные глупости. **7.35, 7.55** Игры разума. **8.25, 9.15** Дикий тунец: Север против юга 5. **10.05, 10.55** Техасский улов. **11.45, 12.35** Тайная история. **13.30, 14.20, 15.10** Расследования авиакатастроф. **16.00, 16.50, 17.40** Остров бунтарей. **18.30, 19.20** Величайшие сокровища древнего мира. **20.10, 21.45** Затерянные тайны библии с Альбертом Лином. **21.00** Борцы со стихией. **22.40** Тайны святых ковчегов. **23.30** Lonely Planet: Roads Less Travelled. **0.15, 0.45, 1.05, 1.30** Горячие границы: Латинская Америка. **3.30, 4.20** Осушить океан. **5.05** Международный аэропорт Дубай.

### ОХОТА И РЫБАЛКА

**6.00, 10.05, 14.05, 18.00, 2.00** Рыболовная Россия. **6.30, 8.40, 10.35, 12.35, 14.30, 16.30, 18.30, 22.35, 0.35, 2.30, 4.40** Охота в Новом Свете. **6.50** Зимняя рыбалка в Приволжье. **7.10, 11.05, 15.00, 19.00, 23.05, 3.15** Безграничная рыбалка. **7.40, 11.35, 23.35, 3.45** Один день из жизни. **8.10, 0.05, 4.10** Охота и рыбалка в. **9.05, 13.00, 16.55, 5.00** Сомы Европы. **9.40, 13.30, 17.30, 21.35, 1.35, 5.35** Зима. Удочка. Поклевка. **12.05, 20.00** Рыбалка 360. **15.30, 19.30** Мир рыболова. **16.00** Рыбалка сегодня XL. **20.30** Рыбалка с Нормундом Грабовскисом. **21.00** На рыбалку с охотой. **22.05** Рыбалка в России. **1.00** В поисках лосося. **2.55** Дед Мазай и зайцы.

### УСАДЬБА

**6.00, 10.10, 14.05, 18.10, 22.10, 2.20** Альтернативный сад. **6.35, 10.40, 22.40, 2.50** Чай вдвоем. **6.50, 11.00, 14.55, 19.00, 23.00, 3.05** Постное меню. **7.00, 11.15, 15.15, 19.15, 23.15, 3.25** Секреты стиля. **7.30, 11.45, 15.45, 19.45, 23.45, 3.50** Школа ландшафтного дизайна. **8.00, 16.15, 20.15, 0.15, 4.20** Лучки-пучки. **8.20, 12.35, 16.35, 20.30, 0.35, 4.35** Дом, милый дом! **8.35, 12.50, 20.50, 0.50, 4.50** 50 оттенков желе. **8.50, 12.15** Огород круглый год. **9.20** Травовед. **9.40, 13.35, 17.35, 21.40, 1.35, 5.35** Хозяин. **13.05, 17.05, 21.05, 1.10, 5.05** Дети на даче. **14.40, 16.50** Огород круглый год. **18.40** Доктор смузи. **2.05 2.05 2.05** И КОМПОТ!

# Землятрус у Гудагаі і суіцыд з рэвальвера ў Вілейцы

## Што пісалі пра наш рэгіён больш за сто год таму

**Ад 1906 да 1915 года ў Вільні выдавалася беларуская газета «Наша ніва». Тут у рубрыцы «З Беларусі і Літвы» друкавалі нямала навін з нашага рэгіёна. Прапануем некаторыя з іх, апублікаваныя ў нумарах газеты за 1909 год.**


Фота з Вікіпедыі.

Дом № 5 па вуліцы Віленскай у Вільні, у якім размяшчалася рэдакцыя «Нашай Нівы» ў 1911 – 1913 гадах.

### Гудагай. Няўжо землятрус з Італіі?

«17 снежня раніцай, а пятай гадзіне, калі яшчэ было цёмна, жонку мясцовага арандатара фальварка Сяржанты разбудзіў страшэнны гром. Зазвінела шкло ў вокнах, і здалося гаспадыні, што падае дом. Але ўсё сціхла. Хутка прыбег арандатар, што быў пры скаціне ў хляве, і расказаў, што і ён таксама чуў гул. Быццам гром праляцеў па небе, зямля задрыжэла і жывёлы пападалі на калені. Выбегшы з хлява, ён убачыў недалёка быццам роў глыбокі, каторы цягнуўся, мусіць, з вярсту ўдоўж з поўначы на паўднёвы ўсход. Думаюць, што гэта водгалас таго страшэннага трасення зямлі, што зруйнавала ў Італіі некалькі вялікіх гарадоў і без ліку вёсак. Гэтае землетрасенне, як кажуць, адазвалася ў некалькіх месцах Віленскай губерні».

### Радашкавічы. Просяць, каб дзяўчынак пусцілі вучыцца

«Начальства яшчэ не зацвердзіла новага гарадскога галаву, Кіцінскага, і гарадскія справы стаяць. Яны так закручаны, што даўно пара за іх узяцца. Жыхары падалі прашэнне, каб дапусцілі дзяўчынак вучыцца ў гарадскім вучылішчы. Каля мястэчка А. Уласаў хоча зрабіць паказны хутар, каб пазнаць, ці можа пражыць сям'я хлебаробаў на чатырох дзесяцінах і як».

### Даўгінава. Таргі – добра, шынкі – кепска

«У нас ёсць многа мужыкоў, работнікаў вясковых, што збіраюцца кожны чацвер на торг да мястэчка. У чацвер на базары можна ўсё купіць і прадаць, пераварочваюцца тысячы рублёў. Тут і сталярства, і слясарства, і кравецтва, і шавецтва, і лён, і жыта. Усяго, што вокам кінуць, можна купіць, толькі давай грошы».

> **Але бяда, што ў нас ёсць манаполька і восем-дзевяць шынкоў. Пад вечар шмат людзей цягаюцца п'яныя, і ніводнага торгу не абыходзіцца без скандалаў і разбояў. Добра было б, каб воласць і мяшчане зрабілі прыгавор, каб закрыць усе манапольнкі і каб не дапускаць патаемнага продажу гарэлкі з дамоў, ды за гэта штрафаваць».**

### Ракаў. Як баба купіла селядзец і замарозіла рукі

«Наша мястэчка вядома тым, што тут ад 1843 года выробляюць веялкі, сячкарні, малатарні. Займаюцца тут і ганчарствам. Тут завезена нядаўна земская школа рамяства. У другіх справах Ракаў жыве, як і ўсе нашы беларускія мястэчкі. Жыцця грамадскага няма, і хваліцца няма чым. Ёсць тут хрысціянская крама, добра гандлюе. Адна баба купіла тут селядцоў і, едучы дамоў, абліла рукі селядцовай юшкай. Пачала іх абліізваць на марозе. А як была яшчэ і выпіўшы, дык памарозіла рукі. Цяпер ляжыць у бальніцы».

### Маліноўшчына. Смерць на бровары

«У нас праз гарэлку здарыўся нядаўна адзін смутны выпадак. Тутэйшы сталяр Янка Вашэта, хлебануўшы трохі залішне, захацеў яшчэ падлімоніцца. Узяў бутэльку і, забраўшыся ў бровар, палез у чоп набіраць бражку ды ўваліўся з галавой. Па нейкім часе знайшлі яго нежывым. Відаць, задыхнуўся бражным газам, бо ўтапіцца не мог: у чопе бражкі было толькі да пояса».

### Вілейка. Начныя стрэлы ў горадзе

«10 сакавіка, ноччу, наш спячы гарадок пачуў стрэлы. Гэта на вуліцы стрэліў у сябе адзін чалавек. Ён нядаўна адзіўся чагось з кухаркай, напіўся, узяў рэвальвер у свайго пана. Цяпер на Расіі такі час, што шмат хто з людзей накладае на сябе рукі».

### Ашмяны. Вучылішчаў – мала, астрогаў – шмат

«Горад наш жыве спакойным жыццём, без клопатаў. Нашы гарадскія айцы як бы адпачываюць па выбарах на ўправу. Ужо колькі гадоў чутно пра вучылішча: хочуць адкрыць або гарадское вучылішча з зямельнымі класамі, або прагімназію. Пляц пад школу дае горад (на конскім рынку) і грошы на 600 рублёў у год. Жыды адразу даюць тысячу рублёў. Але справа гэта здаецца пахавана ў гарадскім архіве. Турмаў маем аж чатыры, а вучылішчы два – гарадское і царкоўна-прыходскае. І хто хоча пазнаць ашмянскае жыццё, можа судзіць па яго будынках. Народ цёмны, і праз сваю цемнату напаўняе астрогі».

### І зноў Радашкавічы. Пра дэпутатаў і старасту

«Гарадскія справы ідуць штораз горш. Доўга быў гарадскім старастам яшчэ мікалаеўскі капітан Вайтовіч. За час яго старства гарадская гаспадарка папсавалася. Горад мае каля тысячы дзесяцін зямлі, млын, пляцы ў мястэчку, дык мог бы мець вялікія даходы. А тым часам цяпер мае пятую частку таго, што можа мець. Мяшчане выбралі цяпер новага старасту Паўлюка Кіцінскага. Хаця ён не надта вучоны, але гарадскія дэпутаты (іх дзесяць чалавек з хрысціянаў і яшчэ адзін з жыдоў) пастанавілі, што ўсе яны разам будуць распараджацца гарадской гаспадаркай. А староста будзе толькі выконваць іх пастанаўленні. Гэтак над усім будзе кантроль грамады. Дагэтуль жа было так, што староста сам незаконна рабіў усё, што хацеў. Доўга не зацвярджалі новага старасту, і ўся гаспадарка нахілілася.

> **Нядаўна прыязджаў член па гарадскіх справах з Вільні. Мяшчане жаліліся яму на сваю думу і старасту Вайтовіча. Член выехаў, нічога не зрабіўшы. Але прыйшла папера, што Кіцінскага старастам не зацвердзілі.**

Мяшчане не ведаюць цяпер, каго выбраць. Па артыкуле 119 «Гарадавога палажэння» другі раз выбіраць незацверджанага старасту няможна».



Падрыхтавала Аксана ЯРАШОНАК
aksanayarashonak@gmail.com
(8-0176) 53-78-06


● КАЛЯНДАР

**12 САКАВІКА**
**1938.** Аншлюс Аўстрыі Германіяй.

**13 САКАВІКА**
**1922.** У Вільні нарадзіўся **Лявон Луцкевіч**, беларускі грамадскі і культурны дзеяч, педагог, мемуарыст. Памёр у 1997 годзе.



**14 САКАВІКА**
**1931.** Нарадзіўся **Павел Місько**, беларускі пісьменнік.



**1939.** Германскія войскі пачалі акупацыю Чэхаславакіі. У горадзе Містэк насуперак загадам камандавання ў бой з германскім палком уступіла рота салдат пад камандаваннем капітана **Паўліка**. Гэта адзіны выпадак арганізаванага супраціву нямецкаму ўварванню. Падзея ў гісторыяграфіі атрымала назву «бой за Чаянковы казармы».

**15 САКАВІКА**
**1917.** Лютаўская рэвалюцыя. Расійскі імператар **Мікалай II** зрокся прастолу за сябе і за сына.

**16 САКАВІКА**
**1916.** Першая сусветная вайна. Пачатак нямецка-расійскай бітвы над возерам Нарач. Нарачанская аперацыя. Прайграная расійскімі войскамі.

**17 САКАВІКА**
**1937.** У СССР прыняты закон, які пазбавіў сялян свабоды перамяшчэння.

**18 САКАВІКА**
**1960.** У Японіі паступілі і пачалі прадавацца каляровыя фламастары.

Падрыхтаваў Мікола ГАЙДУК.

# На пачатку вясны пані Ядзя сабрала сяброў

## Адкрылі выставу, прысвечаную Ядвізе Раздзялоўскай і мастакам маладзечанскага краю

**– У такі ж сонечны вясновы дзень, амаль 120 год таму, у Польшчы нарадзілася дзяўчынка. Яе назвалі Ядзяй. Прайшоў час, дзяўчынка стала дарослай. І лёс склаўся так, што яна прыехала да нас у Беларусь, у Маладзечна, – так пачала адкрыццё выставы «Пані Ядзя збірае сяброў» выкладчыца і мастачка Алена Кучко.**

МАЛАДЗЕЧНА

Выставу, прысвечаную дню нараджэння мастачкі Ядвігі Раздзялоўскай і творчасці мастакоў маладзечанскага краю, адкрылі ў выставачным фае Палаца культуры 3 сакавіка. На ёй прадставілі працы ўдзельнікаў студыі выяўленчага і дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва Маладзечанскага раёна і маладых мастакоў. Некаторыя з прадстаўленых работ з'яўляліся копіямі на творы Раздзялоўскай. А з некаторых партрэтаў, напісаных удзельнікамі студыі, пазіралі сучасныя маладзечанскія мастакі **Рыгор Мяжуеў**, **Анатоль Акулік**, **Генадзь Селядзец**, **Мікола Аўчыннікаў**.

### Як прыходзяць у мастацтва

Падчас адкрыцця выставы вядучая запрасіла мастакоў да дыялогу. Яны адказвалі на пытанні, кожны расказаў пра свой шлях да мастацтва. Так, Рыгору Мяжуеву бацькі давалі алоўкі, каб не дакучаў:

– З дзяцінства нешта крэмзаў. Пасля была школа, студыя, а далей – прафесійная мастацкая адукацыя.

Анатоль Акулік прызнаўся, што прыход у мастацтва атрымаўся неяк сам па сабе. У школе ўвесь час прымушалі маляваць сценгазеты. А пасля школы трэба было абіраць адну з трох прафесій: спартсмен, вайсковец або мастак.

– Я рана пачаў маляваць. Памятаю такі выпадак: у школе настаўніца рускай мовы дала заданне намаляваць ілюстрацыі да нейкага літаратурнага твора. Я намаляваў сабе і некалькім сваім сябрам. Сябры атрымалі пяцёркі, а я чамусьці – чатыры, – прыгадаў мастак **Васіль Таркан**.

Маляваць гэта цікава і захапляльна, пераканаными мастакі. Нездарма, адзначыў Мікола Аўчыннікаў, у дзяцінстве малююць усе. А яшчэ, на думку творцаў, не варта з узростам закідваць гэты занятак.

### Ядвіга Раздзялоўская – заснавальніца мастацкага асяродка ў Маладзечне

– Ужо больш за 65 год у нашым горадзе жыве і нараджае мастакоў народная студыя выяўленчага і дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, створаная дзякуючы ініцыятыве Ядвігі Раздзялоўскай і **Кастуся Харашэвіча**. Мы, мастакі ўсіх пакаленняў, збіраем і шануем жывую спадчыну, памяць пра творчасць і жыццё знакамітай асобы, прафесійнага мастака, чароўнай жанчыны, заснавальніцы мастацкага асяродка ў нашым горадзе – пані Ядзі. Дзякуючы Ядвізе Раздзялоўскай у Маладзечне нарадзілася, жыве і працуе шмат прафесійных мастакоў, – адзначыла Алена Кучко.

Наведаць выставу ў Палацы культуры Маладзечна можна да 20 сакавіка.

**Аксана ЯРАШОНАК.**



Фота забяспечанае Аленай КУЧКО.

Злева направа: мастакі Аляксандр Пашкевіч, Рыгор Мяжуеў, Анатоль Акулік, Васіль Таркан, Мікола Аўчыннікаў і Уладзімір Тамашэвіч адказваюць на пытанні вядучай Алены Кучко.

**Даведка «РГ».** Ядвіга Раздзялоўская (Лясьеўская) нарадзілася 1 сакавіка 1902 года ў Бялай Падляскай у Польшчы. Мастачка, заслужаны дзеяч культуры Польшчы. Атрымала мастацкую адукацыю. Падчас Другой сусветнай трапіла ў Беларусь. Тут сустрэла будучага мужа Вадзіма Раздзялоўскага. Некаторы час жылі ў Баранавічах. Потым мужа пераводзяць на працу ў Маладзечна. Пары выдзелілі двухпакаёўку на Віленскай, у доме №5. Ад канца 1950-х і да канца 1970-х выкладала ў студыі ДПМ для дарослых пры абласным Доме народнай творчасці ў Маладзечне.



На выставе.

# Памёр скульптар Валеры Апарык

ВІЛЕЙКА

**Пра гэта карэспандэнту паведаміў дырэктар Вілейскага дзяржаўнага каледжа Ігар Кіцікаў, дзе Валеры Апарык апошнія гады працаваў майстрам вытворчага навучання.**

– Валеры памёр у рэанімацыі ў ноч з 8 на 9 сакавіка. Пра гэта мне паведамілі яго родныя. Такога таленавітага чалавека, як Валеры Апарык, будзе памятаць уся Вілейка. Яго работы ў горадзе – гэта помнікі яму, – адзначыў Ігар Сямёнавіч у размове з карэспандэнтам.

**Скульптурамі майстра ўпрыгожаны гарадскі парк у Вілейцы і тэрыторыя Вілейскага дзяржаўнага каледжа. Дзякуючы яго супрацоўніцтву з дырэктарам каледжа Ігарам Кіцікавым ля ўстановы ўвасобіліся ў камяні персанажы вілейскіх легендаў, а таксама роварная паркоўка ў выглядзе судака.**

Скульптару было 55 гадоў.

Калектыў «Рэгіянальнай газеты» глыбока смуткуе з прычыны смерці Валерыя Апарыка і выказвае шчырыя спачуванні яго родным і блізкім.

**Аксана ЯРАШОНАК.**



Фота з асабістай старонкі ok.ru

Валеры Апарык ля адной са сваіх скульптур у гарадскім парку ў Вілейцы.




Святлана Ціханоўская падчас перадвыбарчага мітынгу ў Смаргоні ў ліпені 2020 года.

# Расійская прапаганда: беларусы не выйдуць вясной на пратэсты

**З набліжэннем вясны прарасійскія прапагандысцкія парталы ўпарта сочаць за выказваннямі лідараў беларускага пратэсту і прадракаюць, што ў Беларусі «гарачай вясны не будзе».**

«Рэгіянальная газета» прааналізавала артыкул «Рэвалюцыя ў Беларусі – «гарачай вясны» не будзе» пад аўтарствам **Наталлі Грыгор’евай** на сайце EurAsia Daily. Грыгор’ева прадстаўленая як аглядальнік па Беларусі і Усходняй Еўропе. Для EurAsia Daily яна піша тэксты з лютага 2020 года, усе яны прысвечаныя беларускай павестцы. Спачатку аўтар аналізавала сустрэчы Лукашэнкі і Пуціна, магчымасць глыбейшай інтэграцыі, а з пачаткам пратэстаў робіць агляды па пратэснай актыўнасці і далейшай будучыні Беларусі.

У артыкуле «Рэвалюцыя ў Беларусі – «гарачай вясны» не будзе» галоўная ідэя паўстае ў тым, што цяпер у беларускай апазіцыі няма ні ідэй, ні патэнцыялу, каб беларускі народ масава выйшаў на пратэсты. Грыгор’ева разбаўляе гэты пасыл меркаваннямі пра русафобскія погляды лідараў апазіцыі і пра знікненне некаторых з іх

### Ціханоўская і страта вуліц

Напрыканцы лютага **Святлана Ціханоўская** дала інтэрв’ю швейцарскаму штодзённіку Le Temps. У ім яна адказала на пытанне журналіста, дзе адбываецца цяпер беларуская рэвалюцыя.

– Мы страцілі вуліцу, бо супраць нас гвалт, зброя... Таму на дадзены момант выглядае, што быццам бы мы страцілі [вуліцу].

Дарадца Ціханоўскай **Франак Вячорка** падкрэсліваў, што большасць СМІ далі недакладны пераклад інтэрв’ю.

Грыгор’ева пачынае свой артыкул з памылковага перакладу цытаты Ціханоўскай, у якой лідар беларускага пратэсту нібыта кажа, што пратэст прайграў. У сваю чаргу Грыгор’ева дапаўняе, што гэтыя словы Ціханоўскай фактычна сталі кропкай у беларускіх пратэстах, якія адбываліся ад жніўня 2020 года.

**Грыгор’ева ўдакладняе, што страта вуліц з боку пратэстоўцаў адбылася некалькі месяцаў таму, а беларуская ўлада перайграла сваіх праціўнікаў, аднак гэта ўсё роўна не перамога Лукашэнкі. Аўтар не ўдакладніла, калі гэта перамога ў Аляксандра Лукашэнкі адбудзецца.**

Напрыканцы артыкула Грыгор’ева зноўку паўтарае, што беларуская ўлада не перамагла ў сітуацыі з пратэстамі. І робіць выснову «Пакуль беларуская ўлада валодае кантролем за сілавым блокам, а рабочыя на прадпрыемствах стабільна атрымліваюць заробкі, ніякага сур’ёзнага палітычнага ўзрушэння не прадбачыцца». Як мяркуе аўтар артыкула, масавых пратэстаў не адбудзецца да нейкіх падзей (напрыклад, такіх, як гвалт у жніўні). Калі такое адбудзецца, то гэта зможа прымусіць Лукашэнку прыступіць да транзіту ўлады.

### Русафобія – галоўны трыгер, а Пуцін – партнёр

Грыгор’ева шмат піша ў артыкуле, што беларуская апазіцыя выступае з, так бы мовіць, русафобскіх пазіцый. Маўляў, штогод беларусы адзначаюць 25 сакавіка з антырасійскімі лозунгамі і з бел-чырвона-белымі сцягамі.

Цяперашнюю рыторыку Ціханоўскай аўтар артыкула таксама апісвае з выкарыстаннем розных эпітэтаў пра русафобію і нацыяналізм. Грыгор’ева пазіцыянуе Лукашэнку як абаронцу Беларусі ад нацыяналістычных ідэй і добрага партнёра для Пуціна.

«Чарговым штуршком для павышэння градуса русафобіі ў радах беларускай апазіцыі стала мінулая, 22 лютага, сустрэча ў Сочы Аляксандра Лукашэнкі з Уладзімірам Пуціным», – піша Грыгор’ева.

Аўтар лічыць, што апазіцыя мяркуе, што абвінавачванні Лукашэнкі ў продажы незалежнасці выведуць людзей на вуліцы. Аднак Грыгор’ева адзначае, што такога ніколі не было. Аўтар усё-ткі памыляецца: напрыклад, у 2019 годзе праходзілі масавыя пратэсныя акцыі супраць паглыблення інтэграцыі з Расіяй.

Разважанні Грыгор’евай наконт сустрэчы Пуціна і Лукашэнкі завяршаюцца падсумаваннем, што Лукашэнка пакуль што адзіны варыянт для Крамля для кантролю беларускага кірунку.

### «Выцясненне з памяці беларусаў імён тых, каго лічылі апанентамі Лукашэнкі»

Напаследак аўтар артыкула пра немагчымасць масавых пратэстаў удакладняе, што адбылося ў інфармацыйнай прасторы з лідарамі пратэсту.

**Грыгор’ева шчыра здзіўляецца, што ў лютым у параўнанні з летам 2020 года СМІ менш пішуць пра апанентаў Лукашэнкі перад выбарамі ў мінулым годзе.**

Аўтар расказвае пра **Віктара Бабарыку**, **Мікалая Статкевіча** і **Паўла Севярынца**. Яна ўдакладняе, што «прадстаўнікі старой беларускай апазіцыі аказаліся за кратамі яшчэ да правядзення прэзідэнцкіх выбараў», але не дадае, што журналісты не могуць наўпрост камунікаваць з імі. Па словах Грыгор’евай, такі ж лёс забыцця чакае **Сяргея Ціханоўскага** і **Марыю Калеснікаву**. Падстаў, чаму так павінна адбыцца, яна не прыводзіць.

**Настасся УТКІНА.**

# Што не так з вясновым паляваннем

**«Ахова птушак Бацькаўшчыны» (АПБ) выступае за закрыццё вясновага палявання на вадаплаўных птушак у Беларусі. Цяпер гэта зрабіць немагчыма, таму арганізацыя заклікае паляўнічых увесці самаабмежаванні ў вясновы сезон.**


Фота Таццяны РАМАНАВАЙ.

Чырок-траскунок.

Гэта дапаможа зменшыць негатыўны ўплыў вясновага палявання.

## «Вайна» не на роўных

У Беларусі ўмовы вясновага палявання на вадаплаўных недарэчна жорсткія ў дачыненні да птушак. У Еўропе, акрамя нашай краіны, такое паляванне дазволена яшчэ і ў Расіі, але тэрмін там карацейшы.

Раней у Беларусь масава прыязджалі паляўнічыя з Заходняй Еўропы і Расіі, каб тыдзень-другі папаліць па птушках, як у ціры. Летась гэтаму перашкодзіў каронавірус, таму абышлося без выпадкаў, калі пад стрэлы трапляюць і самкі, і непаляўнічыя віды.

Аднак нават без удзелу заходнееўрапейскіх паляўнічых прэсінг на вадаплаўных неабгрунтавана вялікі.

Сітуацыю каментуе дырэктар АПБ **Аляксандр Вінчэўскі**:

– У Нідэрландах дазволена паляванне толькі на крыжанку, наш заканадаўца дазваляе здабываць дзевяць відаў качак з 23, якія сустракаюцца ў краіне, але большасць паляўнічых дрэнна адрозніваюць віды. Кошт памылкі вясной вельмі высокі. Будзьце ўважлівыя. Не ўпэўненыя – не страляйце.

## На якіх птушак дазволена паляваць вясной?

У Беларусі дазволена вясновае паляванне на шэрую гусь, гуменніка, белалобага гусака і чужародную канадскую казарку. У канцы красавіка ў шэрых гусей ужо вылупляюцца птушаняты.

**Заканадаўца дазваляе страляць гусей без уліку полу і ўзросту. Гусі фарміруюць пары на ўсё жыццё і не размнажаюцца ў бягучым сезоне ў выпадку страты партнёра.**

З качак у Беларусі вясновае паляванне дазволенае на самцоў крыжанкі, шыраканоскі, шэрай качкі, чубатую чарнець, чырка-траскунка, чырка-свістунка, а таксама на качараў гогаля і свіязі. Але для качак характэрная сезонная манагамія. Яны фарміруюць пары яшчэ на зімоўкі. Ужо ў кастрычніку пасля аднаўлення шлюбнага ўбору ў самцоў крыжанкі можна назіраць на гарадскіх вадаёмах заляцанне і фарміраванне пары. У прыродзе няма лішніх самцоў. Самец вартуе самку каля гнязда, суправаджае на кармленне і пакідае толькі тады, калі пераканаецца, што ўсе птушаняты вылупіліся.

## Не паляваць вясной на вадаплаўных – у інтарэсах паляўнічых

З-за паляўнічых, якія турбуюць у перыяд заляцанняў і інкубацыі, узнікаюць негатыўныя наступствы на размнажэнні відаў. Не кажучы пра тое, што выпадкова ці з-за нявedання пад ружжо трапляюць самкі і забароненыя да здабычы віды.

АПБ звяртаецца да паляўнічых з просьбай не страляць вясной наступныя віды птушак.

Чырок-траскунок – па ацэнцы Чырвонага спісу Міжнароднага саюза аховы прыроды і прыродных рэсурсаў колькасць гэтага віду ў свеце падае. У Беларусі, па дадзеных арнітолагаў НАН Беларусі, таксама, прычым імкліва. Адстрэл самцоў вясной толькі паскарае гэты працэс.

Шэрыя гусі ў 2004-2005 гадах былі ўключаныя ў нацыянальную Чырвоную кнігу, іх было па краіне ўсяго 250 пар. Каб даць папуляцыі аднавіцца, патрэбны мараторый. Гусі вельмі кансерватыўныя, калі ў вас вясной на іх не палююць – яны будуць вяртацца ў гэта месца на гнездаванне разам з птушанятамі на наступны год.

Белалобая гусь – хоць колькасць гэтага гусака расце, ёсць вельмі вялікая рызыка зблытаць яго падчас палявання з вельмі ўразлівым гусаком-піскульскам, забароненым да палявання ў Беларусі. На жаль, амаль кожны год вясной гэты «чырванакніжны» від трапляе тут пад стрэлы.

Гуменнік – колькасць тайговага падвіду гэтага гусака ў свеце скарачаецца.

Акрамя таго, АПБ просіць паляўнічых:

- выходзіць на паляванне толькі ў пачатку сезона, бліжэй да зімы;
- усталяваць для сябе ліміт здабычы, які не дзве птушкі ў дзень.
- не браць на паляванне паўаўтаматычнае ружжо з магазінам, разлічаным на больш чым два зарады. У Заходняй Еўропе яны забароненыя, бо пакідаюць птушкам меншыя шанцы выжыць;
- не выкарыстоўваць электронныя манкі. У Заходняй Еўропе і Расіі яны забароненыя;
- для палявання ў вадаёмах выкарыстоўваць стрэльбы пад стальны шрот, а не свінцовы.

Гэта змякчыць негатыўнае ўздзеянне вясновага палявання на вадаплаўных птушак і дасць магчымасць уразлівым відам аднавіць папуляцыю.

З гэтага года дазволенае і вясновае паляванне на шызых галубоў. Аднак АПБ просіць паляўнічых устрымацца ад стральбы па іх: шызага голуба вельмі лёгка зблытаць у полі з галубам-клінтухом, які знаходзіцца ў Беларусі пад аховай закона.

**Паводле паведамлення грамадскай арганізацыі «Ахова птушак Бацькаўшчыны».**

# Адкрываецца вясновы сезон палявання на дзікіх птушак

**Ад другой суботы сакавіка да другой нядзелі мая ў Беларусі пачынаецца вясновы сезон палявання на дзікіх птушак. Сезон будзе доўжыцца ад 13 сакавіка да 9 мая.**

Дазваляецца ружэйнае паляванне на пралётных гусей: белалобага, шэрага, гуменніка, канадскую казарку, а таксама на самцоў (качараў) качак: свіязяў, крыжанак, гогаля, шыраканоскі, чубатую чарнець, чырку – свістунка і траскунка, качкі шэрай. Паляванне дазваляецца ў светлы час сутак і забараняецца ад 12 да 18 гадзін.

Дазволеныя спосабы палявання на гусей: ружэйны (гладкаствольная паляўнічая зброя і патроны, набітыя шротам) з засады толькі са скрадка альбо з засады з выкарыстаннем маскіровачнага халата і толькі з прынаджваннем з дапамогай манка і падсаднога гусака ці гусей, і (або) профіляў, і (або) пудзілаў гусака.

Дазволеныя спосабы палявання на качак: ружэйны (гладкаствольная паляўнічая зброя і патроны, набітыя шротам) з засады толькі са скрадка або з выкарыстаннем маскіровачнага халата і толькі з прынаджваннем з дапамогай падсадной качкі (качак) і (або) пудзіла ці пудзілаў і манка. У вясновы сезон палявання на гусей ці качараў дапускаецца выкарыстанне замест скрадка маскіровачнага халата ці маскіровачнага касцюма, надзетага на паляўнічага, каб забяспечыць непрыкметнае знаходжанне.

Для пошуку і падачы здабытай дзічыны можна выкарыстоўваць паляўнічых сабак – тэр'ераў, такс, выжлаў (легавых), спаніэляў, рэтрывераў, водных сабак.

Скрадок – сховішча (будан, яма, бочка і да таго падобнае), што забяспечвае не менш чым з двух бакоў непрыкметнае для паляўнічай жывёлы знаходжанне паляўнічага ў мэтах чакання жывёлы.

Калі вы сталі сведкам фактаў браканьерства, просім паведамляць у Маладзечанскую міжраённую інспекцыю аховы жывёльнага і расліннага свету па адрасе: вуліца Замкавая, 15 альбо па тэл. (8-0176) 77-83-75, (8-029) 668-90-83.

**Паводле паведамлення Маладзечанскай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.**

# Выратавальнікі нагадваюць правілы бяспекі падчас канікулаў

**Напэўна, канікулаў чакае большасць дзяцей. Але кожны вучань абавязаны ведаць і выконваць правілы бяспекі. Выкананне гэтых важных правілаў павінны кантраляваць бацькі. Менавіта таты і мамы нясуць адказнасць за бяспеку свайго дзіцяці.**

Па нашых назіраннях, падчас канікулаў павялічваецца няшчасных выпадкаў з удзелам дзяцей, якія засталіся без нагляду.

Супрацоўнікі Маладзечанскага ГРАНС нагадваюць бацькам асноўныя правілы, якія неабходна нагадаць сваім дзецям перад вясновымі канікуламі.

Абавязкова паўтарыце з дзецьмі свой дамашні адрас і тэлефоны экстранных службаў **101, 112, 102, 103, 104.** Не лішнім будзе каля тэлефона прымацаваць аркуш з гэтымі нумарамі і растлумачыць дзецям, пры якіх выпадках на які нумар трэба тэлефанаваць.

Нагадайце, што ў выпадку пажару неабходна адразу выбегчы на вуліцу і клікаць на дапамогу дарослых. Ні ў якім разе не хавацца пад ложак або ў шафу. Растлумачце сваім дзецям, чаму ад агню нельга схавацца. Раскажыце, што тушыць яго маюць права толькі выратавальнікі.

Запалкі і запальнічкі захоўвайце ў недаступным для дзяцей месцы. Таксама не дазваляйце малым выкарыстоўваць газавую пліту і электрапрыборы. Па нашых звестках, былі выпадкі, калі нават дзеці 12 гадоў і старэйшыя атрымлівалі апёкі вялікай плошчы, калі самастойна разагравалі сабе ежу на пліце.

Шмат дзяцей паедзе на канікулы да дзядуль і бабуль у вёску. Нагадайце бабулям і дзядулям, каб пераканаліся, што ў доме няма нічога небяспечнага для вашых дзяцей. Ад іх неабходна схаваць лекі, пруткі для вязання, нажніцы, бытавую хімію.

Калі дзеці будуць гуляць на вуліцы, за імі таксама трэба пільна сачыць увесь час. Вядомыя выпадкі, калі малыя танулі ў возеры каля дома, застаўшыся без нагляду ўсяго на пару хвілін.

Трагічны выпадак здарыўся з двума вучнямі, якія знайшлі ў бабулі спіртавую настойку і спрабавалі зрабіць факел. У выніку загінула бабуля, якая ратавала ўнука і знаёмага хлопчыка васьмі гадоў.

Каб з вашым дзіцем нічога не здарылася, важна ведаць, дзе яно знаходзіцца і чым займаецца. Выратавальнікі рэкамендуюць для дапамогі бацькам у навучанні дзяцей правілам бяспекі мультфільм МНС «Цудоўная кніга». Паглядзіце са сваімі дзецьмі ўсе серыі, разбярыце з дапамогай герояў мультфільма надзвычайныя сітуацыі. Растлумачце, як іх не дапусціць. І як выйсці з небяспечнай сітуацыі, калі яна ўсё ж здараецца. Знайсці мультфільм вы можаце на афіцыйным ютуб-канале МНС.

**Валянціна СОПАТ, ГРАНС Маладзечна.**
**Фота забяспечанае аўтарам.**



**Аб правілах бяспекі не будзе лішнім нагадваць бацькам і дзецям, лічаць у ГРАНС Маладзечна. На фота – адна з прафілактычных акцый у Маладзечне.**

## Пачаўся суд над Аляксандрай Патрасаевай

**ВІЛЕЙКА**

У судзе Маскоўскага раёна Мінска пачалі разглядаць крымінальную справу ў дачыненні да палітвязня Аляксандры Патрасаевай. Дзяўчына – сірата. Гадавалася ў Чурлёнах.

Аляксандру абвінавачваюць па частцы 2 артыкула 293 Крымінальнага кодэкса – удзел у масавых беспарадках. Ёй пагражае пазбаўленне волі на тэрмін ад трох да васьмі гадоў, паведамляе незарэгістраваны ў Беларусі праваабарончы цэнтр «Вясна».

Паводле абвінавачвання, Аляксандра ў жніўні ўдзельнічала ў масавых беспарадках, з групай асоб па папярэдняй змове блакавала рух транспарту, узводзіла барыкады, знішчала тратуарную плітку, выкарыстоўвала петарды і іншыя прадметы, заклікала людзей да супраціву, непадпарадкоўвалася прадстаўнікам улады.

**Аляксандра віну не прызнала. Суду патлумачыла: у тэлеграм-каналах прачытала, што людзям патрэбная меддапамога.**

Паехала пасля працы на скрыжаванне вуліц Бяды, Багдановіча, Сурганава, каб аказаць такую дапамогу. Дарогу не блакавала, лозунгаў не выкрыквала, барыкады не ўзводзіла.

Суд па справе Аляксандры Патрасаевай працягнецца.

**Паводле spring96.org.**

## Доктара ўзнагародзілі прэміяй «Пакліканне»

**АСТРАВЕЦ**

Маладым медыкам Гродзеншчыны ўпершыню ўручылі прэмію «Пакліканне».

Разглядалі медыкаў да 31 года, якія ўнеслі вялікі ўклад у ахову здароўя. Сярод узнагароджаных ёсць прадстаўнік нашага рэгіёна. У намінацыі «Доктар» адзначылі намесніка галоўнага доктара Астравецкай ЦРБ **Андрэя Дэрвіса**.

**Паводле БелТА.**

## Скараціўся памер дапамогі на пахаванне

Ад 1 сакавіка сума выплаты паменшылася на 184 рублі 60 капеек.

На сайце Фонду сацыяльнай абароны насельніцтва гаворыцца, што памер дапамогі на пахаванне змяняецца штомесяц: ён залежыць ад сярэдняга заробку па краіне за пазамінулы месяц адносна даты смерці.

У студзені сярэдні заробак упаў да 1 290 рублёў, адпаведна, стольki ж склаў стандартны памер сакавіцкай дапамогі на пахаванне. У лютым, напрыклад, сума выплаты была роўная 1 474,6 рубля, у студзені – 1 300,5 рубля.

**На выплату дапамогі на пахаванне ў Беларусі сыходзіць каля 3% ад усіх выдаткаў ФСАН.**

За 2020 год з бюджэту фонду было выдадзена 20 238 такіх дапамог. Пры гэтым дапамога на пахаванне памерлага інваліда Вялікай Айчыннай вайны і асобы, якая атрымлівала пенсію за асаблівыя заслугі перад краінай, выплачваецца ў памеры двухмесячнай сумы прызначанай яму пенсіі, але не менш за сярэдні заробак работнікаў у краіне за пазамінулы месяц адносна месяца наступлення смерці.

Атрымаць такую фінансавую падтрымку можна не пазней за шэсць месяцаў ад дня смерці, а ў выпадку працяглага вышуку памерлага – не пазней за шэсць месяцаў ад дня пахавання. Пры звароце пазней пазначанага тэрміну права на атрыманне дапамогі губляецца.

**Паводле 1prof.by.**

# Міжнародны алімпійскі камітэт не прызнаў Віктара Лукашэнку кіраўніком НАК Беларусі

**26 лютага Віктар Лукашэнка змяніў Аляксандра Лукашэнку на пасту кіраўніка Нацыянальнага алімпійскага камітэта. 8 сакавіка Міжнародны алімпійскі камітэт адмовіўся прызнаваць Лукашэнку кіраўніком арганізацыі.**




МАК працягнуў таксама санкцыі і супраць беларускіх спартыўных чыноўнікаў.

8 сакавіка Міжнародны алімпійскі камітэт (МАК) прыняў рашэнне ў якасці часовай меры не прызнаваць **Віктара Лукашэнку** новым прэзідэнтам Нацыянальнага алімпійскага камітэта (НАК) Беларусі. Аб гэтым на прэс-канферэнцыі заявіў дырэктар па камунікацыях МАК **Марк Адамс**.

Старэйшы сын Аляксандра Лукашэнкі Віктар Лукашэнка быў абраны алімпійскім сходам на пасаду кіраўніка 26 лютага. Ён замяніў Аляксандра Лукашэнку, які займаў пост ад 1997 года.

Марк Адамс паведаміў, што па выніках выбараў у НАК Беларусі МАК не прызнае абранне членам выканкама **Дзмітрыя Баскава**. Таксама Міжнародны алімпійскі камітэт пакінуў у сіле забарону на наведванне ўсіх мерапрыемстваў пад эгідай МАК, уключаючы Алімпійскія гульні, у адносінах да Лукашэнкі і Баскава. У той жа час МАК працягне дыялог з нававыбраным выканкамам арганізацыі.

МАК захавае санкцыі ў адносінах да НАК Беларусі. Сярод іх – спыненне абмеркавання мерапрыемстваў МАК з беларускім алімпійскім камітэтам, спыненне фінансавай дапамогі, за выключэннем стыпендыяльных выплат спартсменам і выплат па іх падрыхтоўцы да Алімпійскіх гульняў.

Міжнародны алімпійскі камітэт папрасіў НАК і спартыўныя федэрацыі Беларусі пракантраляваць адсутнасць палітычнай дыскрымінацыі ў пытаннях удзелу спартсменаў краіны ў адборачных спаборніцтвах да Алімпійскіх гульняў і ў выбары складу на Алімпіяду. МАК не збіраецца запрашаць і даваць акрэдытацыі беларускім чыноўнікам на Алімпіяду ў Токіа.

### Як адрэагаваў НАК Беларусі

Нацыянальны камітэт афіцыйна пракаментаваў рашэнні МАК.

– Пазіцыю МАК адносна «непрызнання абрання Віктара Лукашэнкі новым прэзідэнтам НАК Беларусі і Дзмітрыя Баскава – членам выканкама НАК» лічым абсалютна неабгрунтаванай.

Згодна з паведамленнем НАК, выбары на алімпійскім сходзе прайшлі выключна ў адпаведнасці са статутам НАК Беларусі і дзеючым заканадаўствам Беларусі. Нацыянальны камітэт перакананы, што рашэнне МАК носіць палітычны характар і парушае прынцып «спорт па-за палітыкай». Заява МАК не з'яўляецца падставай для спынення паўнамоцтваў Віктара Лукашэнкі і Дзмітрыя Баскава.

### Чаму супраць НАК Беларусі ўвялі санкцыі

7 снежня выканкам Міжнароднага алімпійскага камітэта ўвёў санкцыі супраць кіраўніцтва НАК Беларусі.

У тым ліку супраць Віктара Лукашэнкі, які займаў у той час пост першага віцэ-прэзідэнта.

Гэта было звязана з тым, што «кіраўніцтва НАК належным чынам не абараніла беларускіх спартсменаў ад палітычнай дыскрымінацыі», што супярэчыць Алімпійскай хартыі.

Раней МАК паведамляў, што можа прыняць далейшыя меры па алімпійскім камітэце Беларусі. Нават і рашэнне аб выступленні беларускіх спартсменаў у Токіа пад нейтральным алімпійскім сцягам.

**У мінулым годзе пасля прэзідэнцкіх выбараў у Беларусі больш за тысячу спартсменаў падпісаліся пад лістом супраць гвалту сілавікоў і за сумленныя і новыя выбары.**



Настасся УТКІНА
anastasiautkina94@gmail.com
(8-0176) 53-78-06

## «Дынама» гуляе супраць «Металурга» ў серыі плэй-оф

Маладзечанскае «Дынама» гуляе ў серыі плэй-оф Экстралігі «А» супраць жлобінскага «Металурга». Пакуль лік у серыі – 2:2.

Серыя пачалася на мінулым тыдні. 3 і 4 сакавіка маладзечанцы сустракаліся з прадстаўнікамі «Металурга» на сваёй пляцоўцы. «Металург» перамог у двух гульнях. 7 і 8 сакавіка маладзечанцы ў гасцях узялі рэванш і перамаглі ў двух матчах.

Лёс серыі вырашаецца 10 і 12 сакавіка.

**Настасся УТКІНА.**

## Букаткін трэніруецца з «Астраўцом»

У складзе «Астраўца», які будзе гуляць у другой лізе, знаходзіцца 32-гадовы беларускі паўабаронца Мікіта Букаткін.

6 сакавіка футбаліст у складзе каманды з Гродзенскай вобласці прыняў удзел у спарынгу супраць дублёраў «Іслачы». Апошнім клубам футбаліста быў казахстанскі «Алтай».

«Астравец» перамог з лікам 9:2.

**Паводле football.by.**

## Леанід Ковель будзе гуляць у «Смаргоні»

34-гадовы форвард вяртаецца ў Смаргонь. Ковель нарадзіўся ў Смаргоні, гуляў у дзіцячай камандзе, а ў 15 год займаўся ў Мінску ў Рэспубліканскім вучылішчы алімпійскага рэзерву.

Як піша Football.by, лінію атакі ў «Смаргоні» таксама ўзмацніць **Ян Сянкевіч** і **Леанід Ханкевіч**.

**Паводле football.by.**

## Астраўчане прайгралі першы матч у чэмпіянаце Гродзенскай вобласці па валейболе

У Гродзенскай вобласці пачаўся чэмпіянат па валейболе. Прадстаўнікі астравецкай каманды правялі першую сустрэчу на спаборніцтвах 6 сакавіка супраць «Ліды-Гедыён».

«Астравец» саступіў «Лідзе» з лікам 1:3.

**Паводле ostrovets.by.**

## Шаранговіч закінуў чацвёртую шайбу ў НХЛ

Беларускі хакеіст Ягор Шаранговіч працягвае выступленне за каманду НХЛ «Нью-Джэрсі Дэвілз».

10 сакавіка «Дэвілз» сустрэлася з «Вашынгтон Кэпіталз». Шаранговіч адзначыўся чацвёртай шайбай у паўночнаамерыканскай лізе.

Шаранговіч ужо забіў «Вашынгтону» напрыканцы лютага. Аднак, як і ў мінулай гульні, гэта шайба не дапамагла «Дэвілз» перамагчы.

**Настасся УТКІНА.**




**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**
1. Надпіс на паштовым адпраўленні, у якім указваецца месцазнаходжанне атрымальніка.
4. Званне пераможцы ў спартыўных спаборніцтвах, гульнях на першынство, а таксама асоба або каманда, удастоеныя такога звання.
6. Сталіца Марока.
7. Паўднёвая травяністая расліна, карэнішча якой нагадвае чалавечую фігуру.
10. Адрасат граматы Дзмітрыя Альгердавіча, у якой упершыню згадваецца Маладзечна.
11. Першая птушка, якую зрабіў свойскай чалавек.
13. Народны духавы музычны інструмент у выглядзе драўлянай або чарацянай трубкі з круглымі дзірачкамі.
14. Сельскае паселішча.
15. Індывідуальны сродак хуткага перамяшчэння.
17. Ні адзін, ніякі прадмет, ніякая справа, з'ява.
22. Месца, храм, дзе ў Старажытнай Грэцыі, Рыме і краінах старажытнага Усходу жрацы прарочылі ад імя бога.
23. Непрыемны душэўны стан, выкліканы немагчымасцю здзейсніць свае надзеі, жаданні.
24. Змененая адчувальнасць ці рэактыўнасць арганізма на паўторнае дзеянне некаторых рэчываў.
26. Узор дэталі, прадмета, з якога робіцца форма для адліўкі.
28. Сярод рыб векі ёсць толькі ў гэтага віду.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**
2. Папрок, незадавальненне.
3. Недахоп грошай, тавараў, выяўлены пры праверцы магазіна, установы.
5. Прыстасаванне для аўтаматычнага адмервання або адважвання сыпкіх, вадкіх, газападобных рэчываў.
8. Тонкае валакно, якое ў выглядзе адростка адыходзіць ад галаўнога і спіннога мозга і з'яўляецца састаўной часткай разгалінаванай сістэмы, здольнай служыць сродкам кіравання дзейнасцю арганізма.
9. Яе працягласць у Беларусі – 5480 кіламетраў.
12. Металічная пласцінка прамавугольнай, круглай або іншай формы з пэўным адбіткам, якую носяць на грудзях як прыналежнасць да той ці іншай арганізацыі, катэгорыі людзей, у памяць.
16. Фарбы, якія разбаўляюцца вадой, а таксама жывапіс гэтымі фарбамі.
18. Род літаратурных твораў, напісаных у форме дыялогу без аўтарскай мовы і прызначаных для пастаноўкі на сцэне.
19. У Грэнландыі колькасць гэтага металу ў снягах павялічылася ў пяць разоў за апошнія сто гадоў. Уплыў яго робіць чалавека больш агрэсіўным.
20. Ннярка лямпачка, якая запальваецца ганач.
21. Група людзей, якія ўчыняюць разбой, злачынствы; банда.
22. Вышэйшая дзяржаўная навуковая ўстанова, у задачу якой уваходзіць развіццё навукі або мастацтва.
25. Абсалютна, цалкам.
27. Той, хто дае парады.

## Адказы на крыжаванку з №10

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 1. Шапка. 2. Мундзір. 4. Дэлегат. 6. Талон. 7. Шахматы. 9. Дыфтонг. 12. Такелаж. 13. Дыктафон. 14. Мяса. 17. Таксічны. 19. Мяцеж. 21. Шаранговіч. 22. Шабля. 24. Дзялянка. 25. Учора.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 2. Мята. 3. Дэвіз. 5. Пошта. 8. Шрам. 10. Магчыма. 11. Шалы. 15. Касыгін. 16. Траціна. 17. Тумак. 18. Панядзелак. 20. Уцёкі. 23. Пяшчота. 25. Ушчэнт. 26. Даліна.

## ГАРАСКОП НА 12-18 САКАВІКА

**АВЕН.** Можна брацца за ўсё, да чаго раней не даходзілі рукі. Разабрацца варта і з мінулым: што не ўяўляе каштоўнасці, трэба адпусціць, перагледзеўшы звычкі. А вось любоўнымі пытаннямі ў гэты перыяд лепш не займацца.

**ЦЯЛЕЦ.** Прадпрымальнікам усміхнецца поспех, а кар'ерыстам варта бліснуць талентамі перад кіраўніцтвам. Не варта забываць і пра свой творчы патэнцыял.

**БЛІЗНЯТЫ.** Падзеі падкажуць, як вам паступіць у адносінах з партнёрам. Адпраўляйцеся на адпачынак, пабегайце па парку ці аддайце перавагу дынамічным забавам.

**РАК.** Вольны час варта прысвяціць адпачынку і жывым зносінам. Галоўным аб'ектам вашых роздумаў стане сфера фінансаў. Знойдзецца крыніца, якая дапаможа прыкметна павялічыць бягучы даход.

**ЛЕЎ.** Час лепш правесці з сям'ёй. Нялішнім будзе і перамовіцца з бізнес-партнёрамі: абмен досведам дапаможа выбудаваць добрыя адносіны і адкрыць новыя крыніцы даходу. Надайце ўвагу дому – зрабіце перастаноўку або змяніце тэкстыль.

**ДЗЕВА.** Прысвяціце час сабе, напрыклад, займіцеся спортам або зрабіце дзень прыгажосці. Рабіце ўсё, каб падняць настрой. Можна перайсці да вырашэння любоўных пытанняў – выбраць спадарожніка або адказаць на прапанову.

**ШАЛІ.** Прысвяціце сябе адной справе, якая сапраўды прынясе вынік. Ёсць верагоднасць непаразумення ў калектыве, але на працы ў цэлым гэта ніяк не адаб'ецца.

**СКАРПІЁН.** Усю працу з дакументамі лепш зрабіць цяпер – нават нудныя і манатонныя справы вырашацца вельмі хутка. Не выключаныя сустрэчы з аднадумцамі. Галоўнае – праяўляць майстэрства дыпламатыі і адразу не адкідаць нават на першы погляд абсурдныя прапановы.

**СТРАЛЕЦ.** Ніякіх стрэсаў ці канфліктаў. Усё будзе абсалютна спакойна па ўсіх франтах. Варта задумацца і аб нявыкананых справах: трэба запланаваць іх, прычым у самы бліжэйшы час.

**КАЗЯРОГ.** Праявіце ўмеранасць літаральна ва ўсім: у словах, учынках, планаванні выдаткаў. Калі настрой імкнецца да рамантычнай ноты, варта даць эмоцыям волю. Правядзіце час са сваёй другой паловай, абмяркуйце ўсе праблемы і варыянты іх рашэння.

**ВАДАЛЕЙ.** Знаёмствы, якія завяжуцца ў гэты перыяд, стануць лёсавызначальнымі. Не грэбуйце новымі людзьмі, а старайцеся лепш даведацца аб іх. Не варта пераследаваць карыслівыя мэты, яны не апраўдаюцца.

**РЫБЫ.** Вам варта не баяцца рызыкаваць і выходзіць за межы зоны камфорту. Мімалётныя адносіны могуць стаць плацдармам для новых дзелавых кантактаў і плённага супрацоўніцтва.

**Эмілія ХВОЯ.**

## СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | 1 | | | 2 | | 3 |
| 3 | 1 | 2 | | | | 9 | | |
| | | 9 | 6 | | 2 | 7 | | |
| | | | 5 | | | | 7 | 4 |
| 5 | 7 | | | | 1 | | 2 | |
| | 6 | 3 | 7 | | | | | 8 |
| 9 | | 6 | | | | | 3 | |
| | | 5 | 9 | | | 4 | | |
| | | | | 4 | | 8 | | |

**Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.**



# Рэгіянальная газета. Rh.by

Падпішыся на «РГ» у Instagram!

RG_RHBY

## Навучэнцы з рэгіёна перамаглі ў абласным этапе конкурсу «ТэхнаІнтэлект»

МАЛАДЗЕЧНА
ВІЛЕЙКА

**Ад 25 студзеня да 28 лютага праходзілі адборачныя мерапрыемствы абласнога этапу Рэспубліканскага конкурсу навукова-тэхнічнай творчасці навучэнскай моладзі «ТэхнаІнтэлект». Сярод пераможцаў ёсць навучэнцы з нашага рэгіёна.**

У секцыі «Тэхнічнае канструяванне» два пераможцы з Нарочанскай сярэдняй школы Вілейскага раёна. Яны ж – выхаванцы Вілейскага цэнтра дадатковай адукацыі дзяцей і моладзі. Другое месца заняў **Кірыл Гулевіч**. Ён прадставіў ачышчальнік-увільгатняльнік паветра. Трэцяе месца – у **Мацвея Грома**. Яго выраб, мадэль, – копія ракеты. Кіраўнік – **Уладзімір Шапель**.

У секцыі «Энергетыка і электраэнергетыка. Энергазберагальныя тэхналогіі» трэцяе месца заняў **Раман Лазараў** – навучэнец Маладзечанскага дзяржаўнага каледжа, выхаванец аб'яднання па інтарэсах «Энергетык». Раман прадставіў вучэбна-наглядны дапаможнік па энергазберажэнні. Кіраўнік – **Аксана Селятыцкая**.

У секцыі «Робататэхніка, аўтаматыка, інтэлектуальныя сістэмы» на трэцім месцы праца вучня маладзечанскай гімназіі №7, выхаванца маладзечанскага цэнтра творчасці дзяцей і моладзі «Маладзік» **Аляксандра Чарняўскага**. Ён прадставіў робататэхнічную платформу. Кіраўнік – **Мікалай Хрэшчык**.

Навучэнцы вілейскай гімназіі «Логас» **Андрэй Борыс** і **Яўген Субач** узялі трэцяе месца ў секцыі «Мультымедыйныя тэхналогіі». Пад кіраўніцтвам педагога **Яўгена Мароза** яны прадставілі вэб-прыкладанне. А яшчэ адзін гімназіст, **Іван Чырыкаў**, таксама ўзяў трэцяе месца з віктарынай «Пазнай Беларусь». Працай кіравала **Святлана Корсак**. Усе хлопчыкі займаюцца ў гуртку «Праграмаванне».

Трэцяе месца ў гэтай секцыі заняў вучань СШ №1 імя Янкі Купалы з Маладзечна **Мікіта Ківалін**. Кіраўнік – **Вольга Смалонская**. Мультымедыйная праца называецца «Гуляй са мной».

У секцыі «Авіяцыя, касманаўтыка і аэракасмічная тэхніка» другое месца заняла **Анастасія Ключонак**, навучэнка Маладзечанскай спецыяльнай агульнаадукацыйнай школы-інтэрната. Кіраўнік працы – **Фёдар Філіповіч**. Дзяўчына прадставіла самаробнае прыстасаванне на аснове маятніка Пашахонава для вымярэння хуткасці сутачнага кручэння зямлі.

**Аддзел інфармацыі.**

## Чытайце праз тыдзень:

- **У 1964 годзе ў вілейскім гарадскім парку на танцах іграў духавы аркестр, пасля – эстрадна-джазавы. А яшчэ пазней з'явіліся мясцовыя хлопцы з гітарамі і ўдарнікамі. Пра музычнае жыццё Вілейкі 1960-1970-х і пра вакальна-інструментальны ансамбль «Кудесники» чытайце ва ўспамінах вілейчука Уладзіміра Балбачана.**

## 13 сакавіка, субота

**Вецер:** паўднёва-заходні, 5-6 м/с




**ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я. АШМЯНЫ**

Мінімальная тэмпература -16,5°C у 1969 годзе
Максімальная тэмпература +11,8°C у 2014 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 16,4 мм у 1966 годзе

Паводле meteoinfo.by.

## Грэйцеся вясновым сонейкам і навінамі «Рэгіянальнай газеты»!

**Каб быць у курсе навін рэгіёна, чытаць жыццёвыя гісторыі і кожны тыдзень давядвацца нешта новае пра мінулае нашага Павілля, вам не трэба будзе хадзіць па «Рэгіянальную газету» штопятніцы, каб купляць у розніцы.**

**Газету з аб'ектыўнай інфармацыяй на роднай мове прынясуць у паштовую скрыню.**

### Падпісацца на «РГ» можна заўжды:

✓ **праз сайт «Белпошты»**

Зарэгіструйцеся на сайце **belpost.by.** У асабістым кабінеце карыстальніка дадайце ваш адрас, а пасля зайдзіце ў акно «Інтэрнэт-падпіска», абярыце «Да каталогу». У акне «Пошук па выданнях» увядзіце назву нашай газеты ці індэкс 63212. Цісніце на спасылку «Рэгіянальная газеты», якая з'явіцца. Або адсканіруйце QR-код.



У меню абярыце індывідуальную ці ведамасную падпіску, перыяд выпіскі выдання.

✓ **на пошце**

✓ **праз паштальёна**

✓ **праз плацежна-даведачны тэрмінал**

Цана **індывідуальнай падпіскі**, рублёў:

- на месяц – 5.19 / 3.86 (з дастаўкай на адрас падпісчыка / на абаненцкую скрыню або да запатрабавання),
- на квартал – 15.57/11.58.

Цана **ведамаснай падпіскі:**

- на месяц – 16.99 / 15.39,
- на квартал – 50.97 / 46.17.

**ПАДПІСНЫЯ ІНДЭКСЫ:** *63212 (індывідуальная)*
*632122 (ведамасная падпіска).*

● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

## Заўважылі павышэнне цэн на камунальныя паслугі?



**Надзея:**
– Сама асабіста не плачу. Ад мамы чула, што павысілія, і нас гэты факт абсалютна не радуе.



**Анатоль:**
– Я не лічыў, гэта мяне не хвалюе, але павышэнне, канешне, ёсць.



**Сяргей:**
– Гэта насамрэч вельмі дорага. Кватэру аплачваў – больш за 100 рублёў. Гэта адурэць можна. І мая маці таксама кажа, што гэта робіцца.



**Таццяна:**
– Трохі, так. Я дакладна не магу сказаць, таму што ў гэты раз муж аплачваў. Ён казаў, што трохі павысілася.



**Леанід:**
– Паглядзеў нават на свае жыроўкі, якія атрымліваў год таму. Калі летам я плаціў дзесьці 60 рублёў, то апошні раз заплаціў 89 рублёў.



**Ганна:**
– Калі шчыра, то я не плачу за камунальныя паслугі. Не ведаю, але нешта чула, што павысілася плата.



**Сяргей:**
– Не заўважыў. Можа, у новай жыроўцы будзе павышэнне, а ў старой не заўважыў.

**Падрыхтаваў аддзел інфармацыі.**

Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 3500 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№11 (1350) 12.03.2021. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня ТАА «РоллПрынт», 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія №023484 ад 16.02.2018 г.
Зак. 418. Падпісана ў друк у 9.00 11.03.2021.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**

Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама, факс), **53-78-05** (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), **53-78-06** (журналісты), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.**
E-mail: **reklama@rh.by, regionnews@rh.by.** Web: **http://rh.by, рг.бел.**
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ «Банк БелВЭБ» аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета», УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.